ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

14 СТУДЗЕНЯ 1994 Г. № 2 (3724) КОШТ 30 РУБ.

## БЫТ І БЫТНАСЦЬ ЛІТАРАТУРЫ

***Юрась ЗАЛОСКА: «На мой погляд, сучасны стан беларускай крытыкі можна ахарактарызаваць хутчэй не распрацоўкай тых ці іншых новых тэм, а — якраз пазбяганнем што-небудзь распрацоўваць».***

**5, 12**

## НЯХАЙ АРГАНЫ БОЛЬШ НЕ ЖАЛЯЦЦА

***Уладзімір НЕЎДАХ: «Кожны народ, вядома, уяўляе сабе гэты інструмент па-рознаму, але з аднолькава вялікай і шчырай любоўю да яго. Напрыклад, для немцаў — гэта жанчына, каралева ўсіх інструментаў /Die Orgel/, для ангельцаў — organ — мужчынскага роду, для італьянцаў — як дзіцё /organo/, а для нас, беларусаў, — як сям'я: арганы /старая форма/».***

**13**

## НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ «НЕВЯДОМАЙ ВАЙНЫ»

***Мар'ян ВІЖ: «...Усе без выключэння ранейшыя навуковыя і навукова-папулярныя публікацыі ў БССР, прысвечаныя апошняй вайне на Беларусі, знаходзіліся ў рэчышчы, строга абмежаваным дагматычнай і ідэалагічнай канцэпцыяй, распрацаванай у ЦК КПБ. Гэтая канцэпцыя артадаксальна і аднабакова асвятляла тагачасныя падзеі: адны факты знарок глуха замоўваліся, іншым фактам — няхай і другасным, адзінкавым, і нават выпадковым — штучна надавалася вызначальная роля».***

**14**





*9 лютага 1852 года ў Мінску намаганнямі музычна-драматычнага гуртка была ажыццёўлена пастаноўка «Ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча...15, 16, 17 студзеня 1994 года на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы -- найноўшая інтэрпрэтацыя знакамітага твора рэжысёрам Мікалаем ПІНІГІНЫМ і акцёрамі В.РЭДЗЬКАМ, З.БЕЛАХВОСЦІК, Л.ДАВІДОВІЧ, Г.МАЛЯЎСКІМ, Ю.АВЕР'ЯНАВЫМ, А.ПАМАЗАНАМ, А.ЛУЦЭВІЧАМ, В.МАНАЕВЫМ /на старонках 10—11 — перадпрэм'ернае інтэрв'ю акцёра/.*






# ПАПЯРЭДЖАННЕ

Уявім сітуацыю. Рабочы, які ўжо некалькі тыдняў знаходзіцца ў вымушаным адпачынку і паціху пачынае забываць, як увогуле выглядаюць грошы, прыйшоў да дырэктара завода, каб высветліць, колькі ўсё гэта будзе доўжыцца. А той яму папулярна тлумачыць: маўляў, парушыліся вытворчыя сувязі і цяпер няма ніякай магчымасці атрымаць з Расіі тую металічную загатоўку, з якой ты робіш дэталь. А ўсё таму, што ў Белавежскай пушчы развалілі Савецкі Саюз.

Калі такі адказ рабочага задаволіць, ён пойдзе пад чырвоны сцяг «Народного движения Белоруссии» і будзе драць глотку на мітынгах «Славянского Собора» за брэжнеўскі сацыялізм і рэанімацыю СССР.

Калі не, дык запытае ў дырэктара: «Пры чым тут міліцыя, калі свінню громам забіла? Пры чым тут Белавежская пушча, калі ты, дырэктар, не хочаш адарваць азадак ад крэсла і пашукаць гэтую загатоўку ў іншым месцы, у Жамойці, Польшчы альбо тут, на Беларусі /калі ўжо такія праблемы з Расіяй/? Можа, на тваё месца трэба пасадзіць іншага чалавека? А заадно і ўрад змяніць?»

12 студзеня на Беларусі прайшоў агульнанацыянальны папераджальны страйк. Хутчэй — два страйкі. Адзін ладзілі афіцыйныя прафсаюзы, другі — Свабодныя прафсаюзы і рэспубліканскі страйкам. Кожны сам па сабе.

На афіцыйным мітынгу ля Палаца спорту гучалі заклікі да вяртання ў СССР, настальгічныя ўсхліпы аб часах «развітога сацыялізму». А ў прынятай рэзалюцыі ўдзельнікі сходкі папрасілі /!?/ урад зрабіць штонебудзь для народа, а калі не атрымаецца, дык пайсці добраахвотна ў адстаўку.




Тут выявілася дваістасць пазіцыі дзяржаўных прафсаюзаў. З аднаго боку, трэба «трымаць марку» абаронцы інтарэсаў працоўных, з другога — не сварыцца з урадам. І нашым, і вашым.

Акцыі, наладжаныя дэмакратычнымі сіламі, ішлі пад лозунгамі безумоўнай адстаўкі ўрада і датэрміновых дэмакратычных выбараў вышэйшай улады Беларусі. Трэба адзначыць, што рэспубліканскі страйкам не разлічваў на асаблівы палітычны рэзананс падзей 12 студзеня. Гэта быў страйк, так бы мовіць «у рабочым парадку», вучэбная трывога, як сказалі б вайскоўцы, праверка гатоўнасці перад сур'ёзнымі падзеямі, адпрацоўка ўзаемадзеяння паміж сталічным цэнтрам і рэгіянальнымі структурамі.

**П. В.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

---

Стоена-скуты ланцугамі лёсу, беларускі народ цярпліва чакае хіба што божага выбару-шляху, нібыта баючыся неабачліва страціць тое, што ў яго яшчэ не адабралі, — апошняе? Аднак надзея гэтая падаецца марнаю. Пакуль рэй вядуць сённяшнія людзі пры ўладзе, страта зусім рэальная.

І ўсё ж нам пашанцавала ў 1990 годзе. Мы атрымалі якую-ніякую незалежнасць. Ды рэч у іншым. Урад і яго суфлёры ў Вярхоўным Савеце не патрацілі жадных сыноўніх пачуццяў, каб блаславіць народ на перспектыву жыць у незалежнасці, паверыць у свае сілы, пачаць з упэўненасцю ладзіць новае жыццё, новую дзяржаву на грунце нацыянальнай свядомасці і годнасці. Адраджэнне не сталася дзяржаўнай палітыкай. Як з'ява надзвычайная і вызначальная, яно, адраджэнне, па-ранейшаму застаецца ў апазіцыі да ўрада Кебіча і ягонага кампартыйнага атачэння. Урад жа застаецца антыадраджэнскім і антынацыянальным.

Ад іх, дзяржаўных служак народа, патрабаваліся іншыя словы, іншыя думкі ды іншыя памкненні. Але няма ў іх гэтых думак і гэтых слоў, апроч дзесятка выпетраных бяздушна-рэжымных штампаў. А словы, што былі моўлены ля старажытных Мірскіх муроў і якія ў самых даверлівых выклікалі нават пэўную эйфарыю, у рэшце рэшт аказаліся класічным узорам палітычнай кан'юнктуры, таннай фальшыўкай. Манета, юрліва пакруціўшыся, лягла двухгаловым арлом наверх. Гульня ўрада ў «беларускі ўрад» тут жа скончылася, амаль не пачаўшыся.

Кіруючая раць, якая дагэтуль не пакінула душных залаў партгасактываў, засталася там назаўсёды — са сваімі барабаннымі прамовамі і ўпэўненасцю ў бязмежнай уладзе. Адтуль, з тых трыбун, беларускі народ ім бачыцца ціхмяна-бязмоўным і паслухмяным, гэтакім быдлам, якога можна хоць зараз запрагаць і кіраваць ім як хочаш. Сённяшні ўрад толькі і ўмее, што абяцаць «авёс» са шчодрай жмені дзядзькі «маскаля» і запэўніваць пры гэтым, што на нашай зямлі пракорму ніякага, толькі ён, моцны сусед, мае ўсё, што жывот пажадае.

Званы «Новай зямлі» вяшчуюць нам новы, запаветны гістарычны дзень. Пачуйма, спадарства!

**Жыві, наш край! Няхай надзея**
**Гарыць у сэрцы і мацнее,**
**Што хоць не мы, дык нашы дзеці**
**Убачаць цэльным цябе ў свеце!**

А нехта сказаў, што надзея на заўтрашні дзень пахавана. Яна — апошняе, што памерці не павінна.

**Валерый ДРАНЧУК**

*Малюнак аўтара*

---

# УГОДКІ ПАЎСТАННЯ КАСЦЮШКІ: СПРАВА ДЗЯРЖАЎНАЯ АЛЬБО ПРЫВАТНАЯ?

***Для нас звыклая рэч, калі святкаванне гадавін слаўных падзей нацыянальнай гісторыі цалкам кладзецца на плечы энтузіястаў. Што ж датычыць улад, дык: не перашкаджаюць — і на тым дзякуй.***

У канцы мінулага года ў друку з'явіліся публікацыі аб дзейнасці Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 года, аб распрацаваных аргкамітэтам прапановаў па яго ўшанаванні. Рэакцыя ўлад была хуткай. Выступаючы па тэлебачанні з нагоды выбараў у Расіі, колішні партыйны ідэолаг Іван Антановіч /цяпер выступае як урадавы тлумачальнік палітычных падзей/ палічыў неабходным абурыцца дзейнасцю арганізацыйнага камітэта і выказаў спадзяванне, што грамадства Беларусі не дапусціць закрыцця музея Суворава ў Кобрыне і дэмантажу помнікаў генералісімусу, бо той «не прайграў ніводнага сражэння». Згодна з логікай сп. Антановіча, трэба было б ушанаваць на Беларусі, пэўна, і памяць шведскага караля Карла XII, і Напалеона, а можа, і стваральніка нямецкіх бронетанкавых войскаў Гудэрыяна, чые танкі прасавалі нашу зямлю ў час Другой сусветнай вайны. А як жа — ваенны талент прыгаданых асоб прызнаны ва ўсім свеце!

З выступлення сп. Антановіча можна зрабіць выснову, што святкаваць 200-я ўгодкі Вызвольнага чыну ўрад не будзе. Тым болей, што святкаванне загадзя асудзіў як праяву «русафобіі» расійскі пасол у Беларусі.

Верагодна, што прапановы нацыянальнага камітэта будуць рэалізаваны пазней. Іншым урадам. Урадам народнага даверу.

Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года, у прыватнасці, прапануе:

У Мінску: праспекту, які зараз носіць імя Дзяржынскага /Берасцейскі напрамак/, надаць імя А.Т.Касцюшкі; пляцу на скрыжаванні будучага пр. Касцюшкі і вуліц Цэткін і Нямігі надаць найменне пляц «Паўстання 1794 г.». Тут збудаваць хрысціянскую экуменічную капліцу ў гонар гэтай падзеі, а таксама паставіць помнік паўстанцам. Назваць вуліцы сталіцы імёнамі кіраўнікоў, герояў паўстання Тамаша Ваўжэцкага, Якуба Ясінскага, Міхала Клеафаса Агінскага, Стахвана Грабоўскага і інш.

У непасрэднай блізкасці ад месца сутычкі авангарда паўстанцкага аддзела С. Грабоўскага з расейскім атрадам, на скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Кунцаўшчыны, устанавіць памятны знак. У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрыць экспазіцыю, прысвечаную гісторыі паўстання.

У Берасці: вуліцы, якая ў 1939 г. была перайменавана і цяпер носіць імя Гогаля, вярнуць яе найменне — вуліца А.Т. Касцюшкі. Закласці ў горадзе помнік Касцюшку і паўстанню 1794 г. У Берасцейскім абласным краязнаўчым музеі падрыхтаваць і адкрыць экспазіцыю па гісторыі паўстання 1794 г. на Берасцейшчыне.

У мястэчку Косаў: аднавіць сядзібу і дом, дзе нарадзіўся А. Т. Касцюшка. Стварыць тут яго мемарыяльны дом-музей. Патрэбны захады дзяржавы для рэстаўрацыі унікальнага замкава-паркавага комплексу, знайсці яму разумнае прымяненне. Гэты куток Бацькаўшчыны — сядзіба і мемарыяльны дом-музей А. Т. Касцюшкі ў Марачаўшчыне разам з Косаўскім замкам і паркам — павінны стаць унікальным асяродкам нашай гісторыі і культуры, нацыянальнай святыняй, адным з важнейшых турыстычных аб'ектаў Беларусі.



*На гэтым месцы стаяў дом, дзе нарадзіўся Т. Касцюшка.*

У Слоніме: мэтазгодна надаць вуліцам ці плошчам імёны А. Т. Касцюшкі і паўстанцкага генерала Караля Серакоўскага. Ля касцёла св. Андрэя закласці і збудаваць помнік у гонар паўстанцаў, на касцёле ўсталяваць мемарыяльную дошку. Ушанаваць помнікам асобу Міхала Казіміра Агінскага — найвышэйшага гетмана ВКЛ, мецэната мастацтваў і фундатара.

У Ружанах /Пружанскі р-н/: адной з вуліц мястэчка надаць імя А.Т.Касцюшкі. Прыняць дзейсныя дзяржаўныя захады па тэрміновай кансервацыі унікальнага замкава-палацавага комплексу XVI—XVIII стст. роду Сапегаў і яго далейшай рэстаўрацыі.

У Бярозе: адной з вуліц надаць імя паўстання 1794 г., ці імя А.Т.Касцюшкі. Правесці грунтоўную кансервацыю руін кляштара картузіянцаў з далейшай рэстаўрацыяй выдатнага помніка архітэктуры і гісторыі.

У г. Кобрыне: правесці кардынальную рэарганізацыю ваенна-гістарычнага музея імя Суворава, перапрафіліроўку яго экспазіцыі. Да верасня 1994 г. у гэтым будынку адкрыць музей гісторыі вызвольнага паўстання 1794 г. Дэманціраваць у горадзе ўсе помнікі і бюсты Суворaву. Вуліцы, якая носіць імя Суворава, вярнуць ранейшы гістарычны назоў. Пераназваць парк, які носіць імя Суворава. Надаць адной з галоўных вуліц горада імя А.Т. Касцюшкі. Ушанаваць у назве вуліцы імя Казіміра Рушчыца — павятовага генерал-маёра, героя паўстання. Закласці помнік А. Т. Касцюшку і паўстанню 1794 г.



*Косаўскі палац.*

У вёсцы Чыжэўшчына /Крупчыцы/ Кобрынскага раёна: у гонар бітвы паўстанцаў з суворaўскімі войскамі на крупчыцкіх палях збудаваць арыгінальны і варты падзеі помнік замест стандартна-невыразнага безаблічнага абеліска з гістарычна-лжывым і абразлівым тэкстам — услаўленнем «перамогі» Суворава над паўстанцамі.

У мястэчку Відзы Браслаўскага раёна: прадуктовую краму, якая збудавана на магіле Тамаша Ваўжэцкага, перанесці ў іншае месца. Аднавіць магілу, збудаваць надмагільны помнік і аднавіць цвінтарную каплічку. У цэнтры Відзаў паставіць помнік Т. Ваўжэцкаму.

У Гародні: ушанаваць у назовах вуліц і плошчаў імёны А.Т. Касцюшкі, Я.Ясінскага, М.К.Агінскага. На будынку каралеўскага палаца, дзе ў час паўстання знаходзілася Гарадзенская паўстанцкая парадкавая камісія і дзе 30 верасня 1794 г. праходзіла нарада кіраўнікоў паўстання пад старшынствам А. Т. Касцюшкі, усталяваць мемарыяльную дошку. Закласці помнік паўстанню 1794 г. У абласным краязнаўчым музеі адкрыць экспазіцыю, прысвечаную гісторыі паўстання на Гарадзеншчыне.

У вёсцы Залессе Смаргонскага раёна: інтэнсіфікаваць рэстаўрацыю сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага. Мемарыялізаваць ужо гатовыя для агляду наведвальнікамі аб'екты. На фасадзе сядзібнага дома М. К. Агінскага ўсталяваць мемарыяльна-ахоўную дошку. З ахоўнай зоны прыбраць крыж, які тут самавольна ўстаноўлены ў 1992 г.

Сядзіба-музей М. К. Агінскага павінна быць уключана ў лік важных турыстычных аб'ектаў краіны.

Аргкамітэт прапануе Міністэрству абароны Беларусі Менскае суворaўскае вучылішча рэфармаваць у Менскі кадэцкі корпус або Менскі вайсковы ліцэй, выключыць фігуру Суворава з вучэбна-выхаваўчага працэсу, прыбраць яго выявы з манументальна-мастацкага афармлення гэтай навучальнай установы.

Мясцовым уладам і ўправам калгасаў і саўгасаў, якія носяць імя Суворава, знайсці годныя назвы для сваіх гаспадарак, кіруючыся мясцовай тапанімікай і геаграфіяй, гісторыяй і культурай Беларусі.

Для тых, хто пажадае выступіць фундатарам праграм святкавання 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 г. у Беларусі, называем разліковы рахунак: 700733 у Ленінскім аддзяленні Белбізнесбанка г. Менска, код 763. Тэлефоны: 32-54-46, 31-32-59.

## ТРОЕ З ЧАТЫРОХ

**«Залатая брама» — назва Міжнароднага фестывалю аўтарскай песні, які прайшоў у Кіеве. Апроч гаспадароў, у конкурснай праграме ўдзельнічалі прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Славакіі — усяго 24 чалавекі. Нашых пасланцоў было чацвёра, і трое з іх атрымалі конкурсныя ўзнагароды. Званне лаўрэата заваяваў Алег Атаманаў, дыпломамі адзначаны гродзенскі бард Віктар Шалкевіч /«За працяг нацыянальных традыцый»/ ды мінчук Ігар Добры /«За яскравы каларыт»/.**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

## СУСТРЭЧЫ З ПЯТРОМ КЛІМУКОМ

**Два дні гасцяваў на берасцейскай зямлі лётчык-касманаўт, начальнік Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў генерал-лейтэнант Пётр Клімук. Усклаўшы кветкі да мемарыяльных пліт загінуўшых абаронцаў Брэсцкай крэпасці-героя, у першы дзень ён трапіў у шматлюдную канферэнц-залу Брэсцкага гарвыканкама, у якой адбылася ўрачыстасць з нагоды 20-гадовага юбілею з дня першага палёту нашага славутага земляка ў космас. Яго віталі старшыня гарадскога Савета народных дэпутатаў І. Венцэль, раённага — К. Сумар, гарадскога савета ТСПА /былое ДТСААФ/ — С. Грабянчук, ад працоўных калектываў прадпрыемстваў абласнога цэнтра — іх кіраўнікі, наватары вытворчасці.**

**Ад імя абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў на гэтай памятнай сустрэчы выступіў М. Панасюк — аўтар дакументальнай аповесці пра касманаўта «Арыенцір — сузор'е Арыён». Ён уручыў П. Клімуку бібліятэчку кніг берасцейскіх аўтараў — паэтаў М. Пракаповіча і З. Дудзюк, празаіка А. Разановіча, кнігу П. Стасевіча пра палескую вёску Моталь Іванаўскага раёна, у якой Пятру Клімуку даводзілася бываць як народнаму дэпутату былога СССР.**

**На другі дзень касманаўт разам з жонкай Ліліяй Уладзіміраўнай наведаў цэнтр маладзёжнай творчасці, панчошны камбінат, сваіх землякоў у Камароўцы.**

**Г. ХАМЯКОВА,**
**прадаўшчыца кіёска-магазіна «Палескі куфэрак» культурна-асветнага цэнтра «Беларуская думка» пры абласной арганізацыі таварыства «Веды»**

## «ДНЯПРОЎСКІЯ ХВАЛІ»

**Калектыўны літаратурна-мастацкі зборнік пад такой назвай выдадзены ў Магілёве тыражом 8000 асобнікаў, памерам — 17 друкарскіх аркушаў /укладальнік — І. Аношкін, мастацкае афармленне — І. Паўлючковай/. У зборнік уключаны творы большасці пісьменнікаў абласнога аддзялення і членаў літаб'яднанняў — каля 70 аўтараў. Змешчаны нарыс аб літаратурным жыцці на Магілёўшчыне з сівой даўніны і па сённяшні дзень, вершы і апавяданні, гумар і сатыра, нататкі пра жыццё і творчасць пісьменнікаў-землякоў Георгія Каніскага, Максіма Гарэцкага, Аляксея Пысіна, Леаніда Дайнекі. Цікавыя матэрыялы ў раздзеле «Мой родны кут». У канцы — кароткія даведкі аб аўтарах. «Дняпроўскія хвалі», мяркуецца, стане альманахам. Але калі будзе другая кніжка — адзін Бог ведае. Бо папера і друкарскія выдаткі проста не пад сілу абласному пісьменніцкаму аддзяленню.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

## МЫ НЕ МОЖАМ БЕЗ... ЧЫРВОНАГА КОЛЕРУ

**Гэтым разам чырвоны колер — колер папярэджання, перасцярогі: выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выпусціла «Чырвоную кнігу Беларусі». Першае яе выданне, як вядома, з'явілася дзесяць гадоў назад, неўзабаве пасля прыняцця ў 1979 годзе спецыяльнай пастановы Савета Міністраў БССР аб зацвярджэнні Кнігі рэдкіх і тых, што знаходзяцца пад пагрозай знішчэння, відаў жывёл і раслін Беларусі. Кніга тады адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Але не толькі ў гэтым прычына, што яе вырашылі перавыдаць. Ёсць, на жаль, і прычына куды больш празаічная. Актыўная, часам неразумная чалавечая дзейнасць вельмі негатыўна ўплывае на прыроду. Калі ў першае выданне «ЧК» было ўключана 80 відаў жывёл і 85 відаў раслін, дык цяпер — 182 віды жывёл і 214 — раслін.**

**«Чырвоная кніга...» пабудавана такім чынам, што ўсе гэтыя віды падзелены на пяць катэгорый. Да першай належаць тыя, што знаходзяцца пад пагрозай поўнага знішчэння, і выратаваць іх могуць толькі спецыяльныя меры. Другая катэгорыя — гэта віды, колькасць якіх адносна вялікая. Рэдкія віды, якім пакуль не пагражае знішчэнне, хоць і мала, аб'яднаны ў трэцюю катэгорыю. Біялогія відаў чацвёртай катэгорыі пакуль недастаткова вывучана. Нарэшце, у пятую ўвайшлі ўзноўленыя віды.**

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ












АДАМЧЫК Міраслаў Вячаслававіч. Паэт, празаік, драматург. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт /1990/. Намеснік шэф-рэдактара БАДППР.

Літаратурную працу пачаў у 1983 годзе.

З вершамі выступаў у калектыўных зборніках «Маладыя галасы» /1985/, «Вусны» /1985/, «Тутэйшыя» /1988/, з апавяданнямі — «Жнівеньскі праспект» /1988/, «Паркан» /1993/. Аўтар кнігі «Забойства на каляды» /1991/, некалькіх п'ес. У сааўтарстве з М. Клімковічам напісаў аповесць «Каханка д'ябла» /1992/.

ВЯРШЫНІН Мікола Пятровіч. Сатырык, гумарыст. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў горадзе Чэрвені. Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум /1958/, Беларускі дзяржаўны універсітэт /1970/. Працуе ў Мінскім навукова-вытворчым аб'яднанні «Прагрэс».

Літаратурную працу пачаў у 1961 годзе.

Выдаў кнігі «Без віны вінаватыя» /1972/, «Не сышліся характарамі» /1977/, «Дагуляўся» /1981/, «Нашто мне жаніцца...» /1982/, «Свой чалавек» /1993/. Публікаваўся ў калектыўных зборніках, рэспубліканскай перыёдыцы.

ДЭБІШ Анатоль Іосіфавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шапятоўка Свіслацкага раёна. Скончыў Мінскі інстытут культуры /1987/. Дырэктар Дома культуры «Хімік» у Брэсце.

Літаратурную працу пачаў у 1984 годзе.

Аўтар зборніка вершаў «Калядная вячэра» /1992/, друкаваўся ў зборніках «Дзень паэзіі», рэспубліканскай перыёдыцы.

ДЭБІШ Васіль Іосіфавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шапятоўка Свіслацкага раёна. Скончыў Мінскі інстытут культуры /1987/. Выхавацель Брэсцкага ПТВ-229.

Літаратурную працу пачаў у 1987 годзе.

Аўтар зборніка вершаў «Белыя птахі» /1992/. Друкаваўся ў зборніках «Матчына слова» /1991/, «Дзень паэзіі» /1991/, рэспубліканскай перыёдыцы.

КЛІМКОВІЧ Максім Аляксандравіч. Празаік, драматург. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут /1980/. Рэдактар аддзела літаратуры і мастацтва часопіса «Бярозка».

Літаратурную працу пачаў у 1985 годзе.

Аўтар кнігі «Сцэнарый смерці» /1991/. Друкаваўся ў калектыўных зборніках прозы «Жнівеньскі праспект» /1988/, «Тутэйшыя» /1988/, «Паркан» /1993/ і іншых, у сааўтарстве з М. Шайбаком напісаў п'есу «Нагавіцы святога Георгія».

МІНЧАНКА Мікола Нічыпаравіч. Паэт, празаік. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Кавалёўка Клімавіцкага раёна. Скончыў Жытомірскі педагагічны інстытут /1968/. Адказны сакратар рэдакцыі клімавіцкай раённай газеты «Новае жыццё».

Літаратурную працу пачаў у 1956 годзе.

Выдаў кнігі «Зялёны звон» /1971/, «Давер» /1980/, «Ліпацвет» /1993/. Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Адданасць» /1978/.

СІЎКО Франц Іванавіч /Францішак Анашка/. Празаік, дзіцячы пісьменнік. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Вята Мёрскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт /1975/. Працуе перакладчыкам у рэдакцыі газеты «Віцебскі рабочы».

Літаратурную працу пачаў у 1983 годзе.

Аўтар кнігі «З чым прыйдзеш...» /1990/, адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў «Карані» і «Дзвіна» /1992/.

СТОМА Вячаслаў Іосіфавіч. Празаік, паэт, публіцыст. Нарадзіўся ў 1945 годзе ў вёсцы Несуцічы Навагрудскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт /1972/. Працаваў намеснікам начальніка «Белрыбвода».

Літаратурную працу пачаў у 1983 годзе.

Выдаў кнігі «Тайна жывёльнага свету» /1989/, «На воўчых сцежках» /1991/, «У глыбінках адвечнага бору» /1991/, «Гаспадар таямнічых віроў» /1992/, выдаваўся за мяжой.

САЧАНКА Барыс Пятровіч /Барыс Пятровіч/. Празаік. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт /1984/. Адказны сакратар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Літаратурную працу пачаў у 1983 годзе.

Аўтар кнігі прозы «Ловы» /1992/. Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Тутэйшыя» /1988/. Публікаваўся ў рэспубліканскай перыёдыцы.

ТЫЧКА Галіна Казіміраўна. Крытык, літаратуразнаўца. Нарадзілася ў 1955 годзе ў вёсцы Сташулі Мёрскага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт /1976/. Кандыдат філалагічных навук /1987/. Абаранілася па тэме «Маральна-этычныя праблемы маладой беларускай прозы». Супрацоўніца часопіса «Полымя».

Аўтар шматлікіх літаратурна-мастацкіх артыкулаў, рэцэнзій, нарысаў, крытычных аглядаў, змешчаных у рэспубліканскім друку.

*Ліст у нумар*

# АМАРАЛЬНА!

У Мінску 14—15 снежня 93г. адбылася міжнародная канферэнцыя па вельмі актуальнай і злабадзённай тэме «Адукацыя XXI стагоддзя. Праблемы павышэння кваліфікацыі работнікаў адукацыі».

У час перадачы тэзісаў свайго выступлення на ёй мне было прапанавана напісаць іх на расейскай альбо ангельскай мове, спасылаючыся на тое, што канферэнцыя міжнародная. 8 снежня мне патэлефанаваў ад імя аргкамітэта прарэктар па навукова-метадычнай рабоце інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі прафесар Б. Пальчэўскі і паведаміў, што мая тэма «Нацыянальная мова як аснова развіцця айчыннай вышэйшай школы» прынята і, разам з тым, прапанаваў перакласці тэзісы на расейскую альбо ангельскую мову, бо аргкамітэт менавіта іх зацвердзіў рабочымі мовамі. 9 снежня я перадаў на імя старшыні аргкамітэта пісьмовую нязгоду перакладаць тэкст з дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь на замежныя. Паведаміў, што працую ў ВНУ Беларусі, выкладаю інфарматыку і вылічальную тэхніку на беларускай мове.

У дзень адкрыцця канферэнцыі я пазнаёміўся з тэзісамі дакладаў, якія былі выдадзены ў двух тамах. Мае тэзісы надрукаваны на беларускай мове. На ангельскай мове — толькі 4, адзін з ЗША, адзін са Славакіі і два з Мінска, астатнія — на расейскай.

Перад адкрыццём канферэнцыі на імя яе старшыні мною была ўнесена пісьмовая прапанова пачаць работу канферэнцыі з выпраўлення дапушчанай недарэчнасці і прыняць у якасці рабочай і беларускую мову. Прафесар Б. Пальчэўскі наогул не зрэагаваў на гэта.

Мой даклад быў уключаны ў праграму работы 5-ай секцыі, якую, дарэчы, узначальваў прафесар Б. Пальчэўскі. На секцыі я таксама папрасіў прысутных калег прыняць у якасці рабочай і дзяржаўную мову Беларусі. Старшыня заявіў, што «на это я не обращаю внимания, продолжаем работу». З майго боку была зроблена яшчэ адна спроба пераканаць у абсурднасці занятай аргкамітэтам пазіцыі і не пазбаўляць удзельнікаў канферэнцыі магчымасці гаварыць на дзяржаўнай мове Беларусі.

Адным словам, прапанова прыняць разам з расейскай, ангельскай у якасці рабочай і беларускую мову не знайшла падтрымкі. Заўважым, што ў зале, дзе працавала 5-я секцыя, прысутнічаў прадстаўнік Міністэрства адукацыі Беларусі, на ўсё гэта не вымавіў ні слова.

У сувязі з тым, што арганізатарамі канферэнцыі я быў афіцыйна пазбаўлены магчымасці гаварыць у сябе на Радзіме на дзяржаўнай мове, мне давялося ў знак пратэсту пакінуць залу.

На заключным пленарным пасяджэнні і прэс-канферэнцыі мною зноў было ўзнята гэта пытанне. Я звярнуўся да паважаных удзельнікаў канферэнцыі з просьбай асэнсаваць, што ж адбылося, з чым ідзе адукацыя незалежнай Рэспублікі Беларусь у XXI стагоддзе. Як можна вырашаць праблемы развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі, груба ігнаруючы дзяржаўную мову і законы гэтай краіны? Хачу падкрэсліць, што арганізатарамі і ўдзельнікамі канферэнцыі былі не проста настаўнікі і выкладчыкі, а настаўнікі настаўнікаў — работнікі педагагічных ВНУ. Я глыбока перакананы, што весці размову аб развіцці нацыянальнай адукацыі, падкрэслена ігнаруючы боскае права кожнага народа мець дзяржаўную сістэму выхавання і навучання на дзяржаўнай мове, ігнаруючы заканадаўства, амаральна, а, мабыць, і злачынна.

Згодзен, што адукацыя павінна стаяць па-за палітыкай, дакладней — вышэй бруднай палітыкі. Але ж тое, што адбылося, — гэта класічны прыклад імперскай палітыкі, рэанімацыя актыўнага працэсу асіміляцыі беларусаў. Няўжо нябачна, што беларуская нацыя духоўна вымірае?

Я звяртаюся да генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь В. Шаладонава, старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіча, міністра адукацыі В. Гайсёнка, да настаўнікаў школ, тэхнікумаў і ВНУ з просьбай зрабіць усё, каб Закон аб беларускай мове дзейнічаў. Чыноўнікі, якія груба ігнаруюць яго, павінны несці адказнасць.

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня мінскай гарадской Рады таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, прафесар**

*«Практыка літаратурнага жыцця патрабуе ўсвядомленай і адкрытай увагі да канкрэтных штодзённа-бытавых праблем. Усякая жыццёвая дробязь... уплывае на яго /жыцця/ развіццё. Апрача таго, публічнасць ніколі не шкодзіла ў калектыўных, грамадскіх справах. Наадварот, яна спрыяла дэмакратычнасці ў вырашэнні гэтых спраў /тут і далей падкрэслена мной. — **Ю. З.**/.*

*... Крытыка ў параўнанні з іншымі жанрамі больш непасрэдна залежыць ад парадкаў у літаратурным асяроддзі... Відавочная слабасць некаторых бакоў нашай крытыкі тлумачыцца многімі прычынамі, у тым ліку некаторымі недасканалымі формамі арганізацыі літаратурнага працэсу. І калі сур'ёзна клапаціцца пра рост крытыкі, нельга абмінаць і гэтыя пытанні...»*

***Віктар КАВАЛЕНКА. «Крытыка... Якая яна?» /1963/***

Юрась ЗАЛОСКА

# БЫТ І БЫТНАСЦЬ ЛІТАРАТУРЫ

## НАТАТКІ АГЛЯДАЛЬНІКА

***Я — аглядальнік «ЛіМа». Аглядальнік, не прывязаны да якой-небудзь пэўнай, канчаткова зацверджанай разумовай «дзялянкі»: мяне цікавяць і хвалююць самыя розныя праявы нашага жыцця, што, думаю, добра засведчана ў маіх дыялогах з дзеячамі культуры і мастацтва... Разам з тым я ўвесь час, «для сябе», сачыў за развіццём сучаснай літаратуры і таго, што патрапляе назваць «эстэтыкай часу» — філасофска-мастацкай думкай, але неяк не лічыў магчымым выказваць свае «нефармальныя» назіранні ўголас. Сёння — напраўду — «не магу маўчаць». Прапаную ўвазе чытачоў некаторыя роздумы аб стане літаратурнага працэсу — яго не «эмпірыі», а — анталогіі, яго быццёвых варунках, пра якія адно і можа пісаць «публіцыст» — не дыпламаваны «крытык».***

***Думаю, дасташаноўны чытач зразумее, што некаторая публіцыстычнасць гэтых нататак абумоўлена найперш стылістыкай друкаванага выдання, газеты; гэта, аднак, не азначае, што ўсяго гэтага нельга было выказаць нашмат «пространно», размашыста, з мноствам цытат і спасылак... Але — навошта? Хай друкаванае выданне робіць сваю справу — толькі ставіць пытанні і выказвае прэтэнзіі...***

На мой погляд, сучасны стан беларускай крытыкі можна ахарактарызаваць хутчэй не **распрацоўкай** тых ці іншых новых тэм, а — якраз пазбяганнем што-небудзь распрацоўваць. У той час, калі расейская крытыка рахуе «папярэднія вынікі XX стагоддзя» /сталая рубрыка «Нового мира»/, ваўсю пера-прачытвае спадчыну і рэфлексуе з нагоды «постмадэрнізму», — у Беларусі, так бы мовіць, захоўваецца ўсё той жа вобраз маналітнасці духоўнага працэсу; раз-пораз чуваць скрушныя папрокі ветэранаў сацрэалістычнай прозы — немаведама ў чый адрас — у «нешанаванні нядаўняга мінулага»... Але ЗА ШТО маладому, перабудовачна-пасляперабудовачнаму пакаленню **паважаць** тое, чаго яно **не бачыла** і чаго не мела?

Гэтая празмерная затурбочанасць мінулым, пільнаванне яго ўяўнай цнатлівасці, падаецца, і не дазваляе нашаму пісьменству смела казаць пра тое, што **сапраўды баліць,** што можа стаць НЕЗАЛЕЖНЫМ СЛОВАМ НЕЗАЛЕЖНАГА МАСТАКА. Занадта ўжыліся мы ў негераічны імідж беларускай мастацкай інтэлігенцыі, занадта звыкліся з тым, што **ўсе** /падкрэсліваю — усе/ заявы нацыянальнай інтэлігенцыі апошняга часу для Улады — бы пусты гук, на які можна не рэагаваць... І не рэагавалі: ні на пярэчанні, бадай, усіх творчых саюзаў, у тым ліку і Саюза пісьменнікаў Беларусі, — наконт уступлення ў «калектыўную бяспеку»; ні на прапановы Першага з'езда беларусаў свету /да ўрада/ па нармалёвым уладкаванні культурна-прававога жыцця ў Беларусі згодна з воляй беларусаў свету /лепшых, падкрэслім, беларусаў, а не выпадкова-маргінальных асоб, у якіх напамін пра «мову» выклікае ледзь не параноічны бзік/... Ну хоць бы які манерны рэveранс «самадзержцаў» беларускіх перад інтэлігенцыяй... Не. Здаецца, інтэлігенцыя пакінута выміраць «як клас», падобна таму, як вымірае закрытая ад знешняга свету жывёльная папуляцыя...

Ва ўсіх сённяшніх гутарках, дзе закранаецца тэма «старэйшых — маладых» /напрыклад, у літаратуры/, патыхае такой задубелай кандовасцю думкі, што пачынаеш думаць, ці не можа стаць мінулае прадметам асабліва хваравітага пакланення... З памяці не сходзіць біблейскае «Мёртвыя трымаюць сваіх мерцвякоў»...

Усёчасна, не толькі пасляваенныя дзесяцігоддзі, «кадры» для культуры пастаўляла ў горад — вёска. «Заглядаю я ў вёску, як у слоўнік, каб упэўніцца, што правільна пішу...» Знанае пакаленне філфакаўцаў, апафеоз катораму спеў Міхась Стральцоў, — спрэс выхадцы з вёскі.

І вось цяпер, як «пасляваеннікі» ўвабраліся ў самотны ўзрост, у нашай крытыцы і каляліратурнай публіцыстыцы натуральна загучалі /праўда, утоена-эўфемістычна/ матывы **апакаліпсічныя**: маўляў, сыходзіць **апошняе пакаленне майстроў** слова. Паколькі «эстэтыку моманту» найперш перадае паэзія, то ёй і дамо слова. Во найноўшы верш Рыгора Барадуліна:

**Мы, як апошнія ваўкі,**
**Пасляваеннікі паэты.**
**Ужо настаўлены цвікі,**
**Каб шкуры нашыя з імпэтам**
**Распяць на прыцемнай сцяне...**
**Мы па інерцыі бяжым,**
**У свет яшчэ знаёмы выем,**
**Ды цені тоіць кожны выем**
**У змроку покуль што чужым.**

Такая, паэтычна-апакаліпсічная падача, была б, аднак жа, аднабаковай, калі яе не дапоўніць іншай, крытычна-разумовай версіяй эвалюцыі літаратуры і літаратурнага працэсу: версіяй С. Дубаўца наконт «курсу на дно» /гл. артыкул «Хто там?», кнігу «Практыкаванні», 1992/. Згадваю яе адно толькі дзеля таго, што яна **была выказана** /наколькі сапраўды меў рацыю крытык — чатыры гады таму, іменна столькі часу прайшло ад напісання і публікацыі ў друку дубаўцоўскай версіі — не мецьму знаць; але выказанае — застаецца, і для «ўліку» меркаванняў мы версію С. Дубаўца занатоўваем/.

З аднаго боку, такім чынам, версія метафізічнага, фатальнага выраджэння пісьменніцкай праслойкі, з другога — бачанне **самавыраджэння** /чытай — дэградацыі/ інстытута пісьменніцтва... Дзе раўнавага?

Раўнавага, як заўсёды, пасярэдзіне. Утапічна, разважаючы пра лёсы прыгожага пісьменства, аддзяляць «метафізіку» ад «анталогіі», альбо, расшыфроўваючы двукоссе, — уласна творчасць ад адмыслова бытнасці. Таму ж пасляваеннаму пакаленню «вясковых сыноў» /і «дачок»/, каб здолець асіміляваць гэты Горад /ва ўсіх сэнсах, а найперш у духоўным/, трэ было, па меншай меры, мець пэўнае спадзяванне на тое, што, прынамсі, **матэрыяльнае ўладкаванне жыцця** — наперадзе будзе. А калі ўлічыць невытручальны комплекс «хатнасці», «домнасці» вяскоўца... Кватэра! Во — быційная канстанта, што /у многіх выпадках найперш яна/ давала моцы літаратурным «вяскоўцам» трываць у горадзе і тым самым неяк папаўняць літаратуру, множыць шэрагі пісьменнікаў... Кватэра — яна, радзімая, таксама клікала, вабіла да сябе — у горад — таленавітых настаўнікаў роднай мовы і літаратуры, хто тут, у Менску, уладкоўваўся на працу ў беларускамоўныя выданні і дагэтуль тут працуе /варта прайсці па рэдакцыях, каб упэўніцца ў гэтым/. Калі яшчэ ўлагоджвалася справа з членствам у партыі — ды было чыста жыццёвае трыванне часовых «цяжкасцяў», — то хутка, нават вельмі хутка быційны бок існавання літаратара задавальняўся. Прычым пачынаўся калейдаскоп «паляпшэння жыллёвых умоў»... /Кажу ўсё гэта зноў-такі не дзеля якойсьці «ацэнкі»; адно дзеля канстатацыі стану рэчаў «з культураю» раней. Кватэра — культура; культура — кватэра, — во амбівалентная быційная супазіцыя, наяўнасцю якой і вырашаўся да нядаўняга часу лёс таго, што мы прывыклі называць «культурай»/.

Ці мае такую надзею цяперашні пачынаючы, небесталанны літаратар? Літаратар, што «падае надзеі» і выдае на новага «сур'ёзнага» пісьменніка?.. Пытанне, што й казаць, павісае ў паветры. Надзеі такой няма; прынамсі, большасць маіх асабістых знаёмых — менскіх літаратараў — выхадцы з вёскі /бо прыйсці «з мовай» можна ў нашым стане толькі стуль/; шмат хто не мае менскай прапіскі; шмат хто жыве чортведама дзе, «у віру на калу»... І гэта — можа спрыяць «творчасці»? І хіба ў такіх умовах можна «шліфаваць» прозу, «перачытваць» спадчыну, «лавіць музу»??.. Вось як «быт» накладваецца на «творчасць» і адно з другім звязана.

Сёння, каб сказаць нешта справядлівае аб моладзі і змене пакаленняў, трэба, мне думаецца, перадусім выразна зацяміць тую велізарную быційную розніцу паміж літаратурнымі «вяскоўцамі» 1945-га — 1990-х гадоў і літаратурнымі «вяскоўцамі» новага часу. /А што і сёння сілкавальныя сілы ў літаратуру прыходзяць з вёскі, дзе мова хіба што захоўвае сваё прыроднае аблічча, — сумнявацца ў тым, пэўна, не будзе ніхто/. У цяперашняга пачынаючага літаратара «быційнае» канстанты няма і не намерваецца быць. Казаць у **такой** сацыяльнай сітуацыі пра «нявартасць» ці «нязДольнасць» моладзі — проста неразумна. Што ж гэтай неўладкаванай, ды дужа «падкаванай» на розум — за часы галоснасці і перабудовы — моладзі застаецца, як не нігілізм? І — заўважце — гэта пры **не меншай** /калі не сказаць большай!/ любові маладых да роднай мовы, сімвалаў, ледзь не містычным пакланенні перад спадчынай, пры відавочна яскравейшым маладзёжным «нацыяналізме»... Прычым тут «нядаўняе мінулае» — для кагось, для пісьменнікаў найперш — такое «хлебнае» і такое «ганарарнае»? /Зноў-такі, дзеля аб'ектыўнасці мусім сказаць і пра гэты, «ганарарны» бок літаратурнага працэсу — параўнанне не на карысць часу цяперашняму, і гэта не прыбядненне, а аб'ектыўнае параўнанне/.

Іван Пятровіч Шамякін, у адрозненне ад іншых пісьменнікаў старэйшага веку, не баіцца выказваць сваё незадавальненне часам адкрыта. Яшчэ ў 1989 годзе /«Вобраз—89»/ ён са шкадаваннем параўноўваў сваё пісьменніцкае становішча сярод «сірых і ўбогіх» /1948 год/: «Жыццё рэзка памянялася: з вёскі — у сталіцу, з беднасці — у дастатак. Я меў грошы. Магазіны былі забіты харчам; кілбас гатункаў дванаццаць, ікра ў бочках стаяла, мяса на Камароўскім рынку 8-10 рублёў **пры ганарары за аркуш 3000 рублёў** /падкрэслена мной. — **Ю.З.**/». Што ж — мяса дзеля забеспячэння пісьменніцкае працы хапала з лішкам... Вунь якая спадчына пасляваенная засталася!.. У годзе 1993-м шаноўны Іван Пятровіч зноў не таячыся кажа пра тое самае, толькі выкарыстоўваючы іншае «рэчыўнае напаўненне» літаратуры: «Я, напрыклад, за сваю пенсію магу купіць ажно дзве каністры бензіну. Хіба ж не шчасце?» Шчасце, вядома, Іван Пятровіч, асабліва ў параўнанні з цяперашняй студэнцкай стыпендыяй, на якую ледзь стане 30 разоў у месяц /адзін раз на дзень!/ купіць салаты з хлебам у сталоўцы... Ды трываюць нешта нашы студэнты, паясы падвязваюць, маўчаць, галодныя. На ўрад не скардзяцца... Не маўчаць, як і належыць, пісьменнікі.

Той час меў і сваіх «класікаў» і сваіх апявальнікаў — тых, хто «апяваў» — крытыкаў, хто цікаваў літаратурны працэс і абслугоўваў сваё пакаленне. У маладых на вяртанне ў эстэтыку мінулага проста не стае энергіі... Каб хоць справіцца — не з эстэтыкай! — з побытам цяперашнім... Тым больш: **кожны час шануе сваіх выбітных людзей, якімі б ні былі слыннымі папярэднікі.** /Гэта — з талстоўскіх максім з «Круга чтения», адаптаваны пераклад «Талмуда»/.

Так што прычына тут значна прасцейшая. Пастаўце моладзь у аднолькавыя ўмовы са «старэйшымі» — і тады-то і можна будзе параўноўваць пакаленні. Хоць, канечне ж, у эстэтычных адносінах ніякіх паслабленняў нікому быць не можа. Тут як у мове: яе эстэтычна-мастацкая вартасць не можа разглядацца ў сувязі з пашыранасцю мовы ў грамадстве. Але і моладзь не збіраецца рабіць інтэлектуальных паблажак папярэднікам: начытаўшыся бартаў ды дэрыдоў, нават пачынаючы крытык можа «па костачках» разабраць зборнікі крытычных артыкулаў 60-х, 70-х гадоў... Чаму ж не? **Уласна тэорыі** літаратуры, адрэфлексаванага, самастойнага /«нашага»/ літаратуразнаўства ў савецкай беларускай крытыцы знайсці вельмі цяжка. Асабіста мой досвед: перачытаўшы шмат, знайшоў моцныя хіба дзве плыні — а/ кампліментарную /сяброўска-ўхвальную/; б/ біябібліяграфічную. Абедзве добра прадстаўлены ў гадавіках «ЛіМа» і ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» /апошняя — больш/. Такім чынам, можам казаць пра адносную распрацаванасць гісторыі літаратуры, але не тэорыі.

Гэткі стан айчыннага літаратуразнаўства добра разумеюць і самі навукоўцы. Нядаўна, прысутнічаючы на навуковай сесіі ў Акадэміі навук, на пасяджэнні секцыі мовы і літаратуры, давялося пачуць літаральна наступнае: «**Дайце** нам філасофію гісторыі, **дайце** нам філасофскую метадалогію гуманітарнай навукі!..» Гэта — з вуснаў не каго-небудзь, а члена-карэспандэнта АН Беларусі! Выбачайце, але што, дагэтуль інстытут /літаратуры/ працаваў наўслеп, **без** тэорыі, плённа збіраючы адно звесткі і біяграфічныя даныя? Чым жа **гэткі** ўзровень інтэлектуальных намаганняў адрозны ад г. зв. самадзейнага, аматарскага літаратуразнаўства? А мы кажам — «фундаментальная навука»... Ну добра, хоць збіраліся эмпірычныя матэрыялы; ды й тут таксама ўзнікаюць пытанні, і пытанні абгрунтаваныя, — колькі разоў у «ЭлімБеле» сутыкаўся з неадпаведнасцю пісьменніцкай факталогіі /за год стварэння пэўных твораў В. Быкава, напрыклад, узяты, па ўсім бачна, даты з «Литературного энциклопедического словаря», хоць там, зразумела, пададзены год публікацыі твораў у рускім перакладзе.../.

«Факцікаў» набярэцца болей чым дастаткова. Ды я не пра тое, не пра «далакопства» айчыннае. Ступень «эксгуміравання» інтэлектуальнай спадчыны нядаўняга мінулага будзе залежаць, вядома, ад ступені інтэлектуальнай і /самае галоўнае ў нашых варунках/ карпаратыўна-гуртавой незалежнасці крытыка. Не стала ідэалогіі, ды засталося тое самае «нядаўняе мінулае»... Творчы дух нашай крытыкі, я лічу, таймуе нядобрая, набіўшая аскоміну стылізацыя «крытычнай прозы» пад нібыта

*(Працяг на стар. 12)*

## ПАМЯЦІ КАСТУСЯ КІРЭЕНКІ

**быў прысвечаны ў Доме літаратара вечар «Хачу жывую думу думаць...», які быў прымеркаваны да 75-годдзя з дня нараджэння паэта. Пра яго жыццёвы і творчы шлях гаварылі вядучы вечарыны намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, народны пісьменнік І. Шамякін, К. Камейша, К. Цвірка, В. Супрунчук.**

**Песні беларускіх кампазітараў на вершы К. Кірэенкі выконвала заслужаная артыстка рэспублікі Г. Радзько. Вершы паэта чыталі артысты мінскіх тэатраў. У канцэртнай праграме прыняла ўдзел цымбалістка Н. Чырык.**

**Г. СУШКО**

## ПАШУКАЕШ — ЗНОЙДЗЕШ

**Хочацца адаслаць чытачоў да часопіса «Славяноведение» /колішняе «Советское славяноведение»/. Выпускае яго Расійская акадэмія навук шэсць разоў на год. Сёлета пакуль што з'явілася пяць нумароў.**

**У першым з іх Ю. Лабынцаў у раздзеле «Агляды і рэцэнзіі»» грунтоўна разглядае факсімільны выпуск знакамітай скарынаўскай «Бібліі», ажыццёўлены выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі ў трох тамах.**

**У трэцім нумары ў згаданым раздзеле А. Анікін уважліва прачытвае сёмы том «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», што пабачыў свет у выдавецтве «Навука і тэхніка» ў 1991 годзе. Заўвагі выказаны істотныя.**

**І, нарэшце, у пятым нумары нельга прамінуць артыкул доктара гістарычных навук, вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута славяназнаўства і балканістыкі РАН У. Дз'якава «Т. Касцюшка і яго паплечнікі пасля паражэння пры Мацейёвіцы /1794—1798/». Як вядома, рэспубліка рыхтуецца шырока адзначыць 200-годдзе гэтага паўстання. У артыкуле ж гаворка ідзе «аб найбольш важным і змястоўным комплексе крыніц, што захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў». Разглядаюцца і матэрыялы Тайнай экспедыцыі сената, што з'яўлялася ў Расіі вышэйшым органам палітычнага вышуку. Тут жа выкладчык Гродзенскага універсітэта, аспірант Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Т. Кручкоўскі выступае з артыкулам «Праблемы падзелу Рэчы Паспалітай у рускай гістарыяграфіі другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя».**

## ВЯРТАННЕ ІМЯ

**У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі высілкамі яго супрацоўнікаў і сяброў Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі напрыканцы года была зладжана навукова-практычная канферэнцыя з нагоды жалобнай даты — 50-х угодкаў забойства Вацлава Іваноўскага. Месца яе правядзення — невыпадковае і ў нечым нават сімвалічнае. В. Іваноўскі вырас у каталіцкім асяроддзі, пазней стаў пратэстантам-кальвіністам, пахаваны ж быў на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках у Мінску паводле праваслаўнага абраду.**

**Уступнае слова трымаў старшыня Краязнаўчай асацыяцыі Андрэй Майсяёнак. Ён засяродзіў увагу прысутных на значнасці асобы В. Іваноўскага ў беларускім адраджэнскім руху пачатку XX стагоддзя, расказаў пра яго навуковыя дасягненні. Аўтар гэтых радкоў распавёў пра сям'ю і родавае гняздо Іваноўскіх — Лябёдку /зараз — у Шчучынскім раёне/. ВітаўтРуднік высветліў ролю В. Іваноўскага ў станаўленні беларускай выдавецкай справы. Яго выступ ілюстравалі рэдкія выданні з фондаў музея. Прафесар універсітэта Аляксей Пяткевіч узгадаў пра шматлікіх паплечнікаў і сяброў Іваноўскага, пра дачыненні паміж імі.**

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**
*г. Гародня*

## ПРЭМ'ЕРА ПЕРШАЙ КНІЖКІ

**«Плакун-трава» — так называецца першы зборнік маладога паэта Анатоля Кудласевіча, які выпусціла незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія». Прэм'ера кніжкі прайшла ў Доме літаратара. Выступілі А. Дзеружынскі, М. Скобла, М. Федзюковіч, дырэктар «Тэхналогіі» В. Багдановіч і іншыя. Вершы А. Кудласевіча чыталі народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч, М. Казачонак, а таксама сам аўтар. Ён жа выканаў і некалькі ўласных песень.**

**На прэм'еры выступілі барды А. Атаманаў, К. Герашчанка, М. Трафімчук і ансамбль «Пралеска».**

**У тым, што вечарына адбылася, заслуга спонсараў — фірмаў «Дайнова», «Пенат», «Від» і іншых.**

**П. ПЯТРУК**

# АБЛАШЧАНЫЯ ЗЛОМ

## ХРЫСЦІЯНСКІЯ ІДЭІ Ў АПОВЕСЦІ М. ГАРЭЦКАГА «ДЗВЕ ДУШЫ»

Паспрабуем зрабіць некаторыя назіранні над хрысціянскімі ідэямі ў аповесці М. Гарэцкага «Дзве душы». На пытанне «што ёсць душа?» хрысціянскае веравучэнне адказвае так: «Чалавеку дастаўся ад Бога і Свет духоўны, дзеля таго, каб ГРЭШНЫ чалавек быў скіраваны ўвесь час да Бога як Бацькі, Выратавальніка, Сябра». Гэтая ж праблема набывае ў творчасці М. Гарэцкага моцнае хрысціянска-гуманістычнае гучанне. Аўтар імкнецца прасвятліць сваіх герояў Богам. А сам празаік бачыцца нам у ролі Месіі, які ўсхвалявана кліча-просіць: «Брацці! Душу грэшную чалавека трэба ратаваць!»

Пісьменнік у сваіх фантазіях стварае абсурдных герояў, нейкіх асаблівых ворагаў, ворагаў як сяброў. Гаршчок у М. Гарэцкага — носьбіт зла, бо «без міласердзя парастрэльваў зусім невінаватых людзей». Аднак адназначна даць яму такую характарыстыку нельга, бо ён і летуценны эстэт, які адчувае хараство зямное: «Прыедзеш дамоў і пачнеш хадзіць па лесе за красою». Гаршчок — антыідэал пісьменніка, і яго аўтар невыпадкова прыводзіць да духоўнай і фізічнай смерці.

Аповесць М. Гарэцкага «Дзве душы» — своеасаблівая кніга Эклезіяста, у якой песімізм рэвалюцыйнага бальшавіцкага часу знайшоў глыбокае выяўленне. Аўтар любіць жыццё, хоць і бачыць часам адсутнасць у ім усякага сэнсу. «Можам згаджацца ці не згаджацца з палажэннямі тымі ці іншымі аб значэнні звычайнага чалавека і генія ў ходзе сусветных здарэнняў, няхай адны кажуць, што чалавек у гэтай справе — недалужная шчапінка ў акіяне, а другія няхай сабе кажуць «чалавек у гэтай справе, як рулявы на караблі», ... а толькі ж лічыцеся, паночкі, з жыццём, не жмурыцеся ад яго зіяння, не плюшчыце вочы ад яго святла», — піша М. Гарэцкі ў артыкуле «Развагі і думкі».

Заўважым, пісьменнік не верыць у бальшавізм як Дабро, але і не хоча верыць у бальшавізм як Зло. Менавіта гэтым тлумачыцца ідэйна-тэматычная рэалізацыя вобраза Гаршка ў творы.

Што мае на ўвазе аўтар, калі гаворыць: «Гаршчок сумяшчаў у душы сваёй найлепшы здаецца гуманізм, найгоршае акажацца чалавеканялюбства?» Тут першае выключае другое. Дабро, якое нясе Гаршчок, ператвараецца ў зло. Бог толькі здаецца, а грэх — спраўджваецца.

У гэтых радках ярка высвечваюцца дзве іпастасі героя: жыццё праз сон і жыццё ў яве. Першае — бязгрэшнае. Другое — бязбожнае. Боскае ў Гаршку выяўляецца ў сне. Як трэба разумець «сны» героя? Само слова «сон» разглядаецца аўтарам у двух сэнсавых планах: умоўна-пачуццёвым /«Сон» у значэнні «Успамін»/ і канкрэтна-рэалістычным. Сны-«ўспаміны» будучага сацыяліста і пра сям'ю, свае вытокі, Радзіму /бацькоў, вёску, брата/. Стан такога сну ў героя — усяго імгненне, ды ў дабавак сон гэты нейкі хваравіты і спыняецца ў той самы момант, калі Гаршчок пачаў красці.

Ці адчувае Гаршчок грэх у самім сабе? Хоць герой добра ведае ўсялякае чалавечае зло, — не, не адчувае. У час «давучыцельскага» і даманастырскага жыцця Гаршчок проста не ведаў граху. Срэбны крыжык, які яшчэ не паспеў згубіцца, быў сведкаю праўдзівага жыцця. Невыпадкова аўтар малюе Гаршка гэткім светлым анёльчыкам напярэдадні грэхападзення: «вочы зоркія, валасы кучаравыя, від да ўсякага чалавека спагадны і радасны». Калі ж герой здзяйсняе момант крывавага грэхадзеяння /забойства паповічаў/, ён зноў жа не адчувае сябе грэшнікам. І гэта зразумела: інакш не быў бы ім. А вось у п'яным сне кідае Абдзіраловічу: «Гора нам вялікае! Колькі пралетарыяў загубілі». Упэўнена можна гаварыць, што гэта не самасуд, а зноў жа тое ж бяспамяцтва.

Ёсць у творы два эпізоды, якія найбольш выразна тлумачаць грэхападзенне героя. У першым — мы бачым Гаршка, калі той збіраецца стаць манахам, а пакуль пасля заканчэння царкоўнай школы працуе настаўнікам. Ён хоча быць на месцы хрысціянскага Бога, але пры гэтым «замучыў дзяцей малітвамі». А ці можна «замучыць» малітвай? Малітва, у хрысціянскім разуменні, гэта Усёдараванне, Радасць і Вера. На месцы Бога Гаршчок быць не можа і таму, што «вялікім праведнікам ці манахам» ён сябе толькі сасніў. Гаршчок не можа быць на месцы Бога яшчэ і таму, што малюнкі «душеспасительных листков», якія прапанаваў дзецям, дужа страшныя. На адным паказана, як «у п'янага з рота лезець вужака», на другім — «пляткарка ліжаць языком гарачае залеза». Нельга ратаваць душу праз позірк Д'ябла. У іншым эпізодзе мы бачым будучага бальшавіка ў турме, «дзе пабачыў і пачуў ён для сябе шмат чаго новага». Яго памкненні: быць суддзёй, Дыктатарам, Павадыром-рэвалюцыянерам. Спосаб дасягнення мэты застаўся той самы: Гаршчок чытае без разбору ўсякую нелегальшчыну, як некалі «душеспасительные листки».

Як бачым, сваім духоўна-філасофскім складам М. Гарэцкі нечым падобны да філосафа У. Салаўёва, які ў сваёй кнізе «Духоўныя асновы жыцця» сцвярджаў: «Не верыць у дабро ёсць смерць, а верыць у сябе як крыніцу дабра /Бога/ — вар'яцтва».

У самым пачатку дарогі да страчанага Бога валацюга-басяк ставіць перад сабою пытанне: «Што рабіць? Прасіць ці красці?» І адказвае: «Красці!» Прасіць крыўдна і сорамна. Гаршчок тут лічыць сваім Богам — Гордасць. Ён не хоча ехаць у вёску да брата, каб папрасіць прабачэння за тое, што забыўся на яго. Гаршчок пачне красці. У манахаў — іх ілжывую веру, у басякоў — іх ілжывыя мукі, у бальшавікоў — іх ілжывую волю.

Напрошваецца пытанне, ці можа Гаршчок знайсці страчанага Бога? У хрысціянскай літаратуры шырока асвятляецца праблема адпушчэння граху, яго даравання. Гэта адзін з важнейшых пастулатаў хрысціянскага вучэння. Згодна з гэтым вучэннем адказ на пытанне будзе станоўчым. Гарэцкі паказвае, што царкоўнікі не выконваюць гэты запавет Хрыста. Калі Гаршчок абакраў манастырскую казну, то манахі — «ні тоўсты Паісей з бліскучай чырвонай лысінай», ні архімандрыт «з рыжымі валасатымі рукамі», намаляваныя аўтарам бліскуча-гратэскава, не могуць даравацъ герою гэты грэх. Прычына тут відавочная — яны, грэшныя, парадзілі дзіця, сабе падобнае, каб потым назваць яго сацыялістам: «Арыштант! Сацыяліст! Ідзі туды, адкуль прыйшоў», — гнеўна кідае архімандрыт блудніку. Словы «і такім я люблю яго» прыгадвае Гаршчок, калі чуе прысуд нядаўніх сваіх братоў. Ён пераконваецца, што ў манастыры гэты Хрыстосаў

*Адгалоскі*

# БЕЗ КРЫНІЦ — «ГУЛЬНЯ ФАНТАЗІІ»

Трэба вітаць заклік доктара філасофскіх навук А. Кляўчэні брацца за вывучэнне спадчыны XIII — XV стст. у ягоным артыкуле «Зямныя, святыя людзі» /«ЛіМ» за 27.08.1993/. Грунтоўная недаследаванасць гэтых стагоддзяў, па ягонай думцы, «тлумачыцца тым, што амаль няма крыніц. З гэтым пагадзіцца нельга, — піша аўтар. — Літаратары і гісторыкі змаглі зрабіць значна больш у даследаваннях гэтага перыяду. Філосафам таксама трэба брацца за справу».

Зусім згодны, што крыніц па гэтых стагоддзях амаль няма. Таму спадзяешся на тое, што аўтар артыкула, які не згаджаецца з гэтым, прывядзе спасылкі на новыя, нявыкарыстаныя яго папярэднікамі крыніцы XIII—XV стст. Але ён спрабуе разгледзець філасофскія погляды дзеячаў не гэтых, а папярэдняга, XII стагоддзя — Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага — з пункту погляду развіцця імі і фактычнага абгрунтавання нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Улічваючы беднасць пісьмовых крыніц па гісторыі Полацкага і іншых протабеларускіх княстваў, мне застаецца невядомым, на аснове чаго А. Кляўчэня сцвярджае, што ў паняцце «нацыянальная свядомасць» сярод жыхароў гэтых зямель уключаюцца ўяўленні аб княжацкай уладзе, адносінах да гэтай улады іхніх жыхароў, аб тэрыторыі княства, яго незалежнасці і іншыя. Калі аўтар знайшоў для пацвярджэння сваіх меркаванняў іншыя крыніцы, апроч летапісаў і аднаго жыція, у якіх пра гэтыя ўяўленні нічога не гаворыцца, трэба было б паведаміць чытачу і давесці іх да ведама навуковай грамадскасці.

Як не ўспомніць думку гісторыка Марка Блока, згодна якой «не беручы ў разлік свабодную гульню фантазіі сцвярджэнне не мае права з'яўляцца ў тэксце, калі яго нельга праверыць; і для гісторыка, які прыводзіць які-небудзь дакумент, указанне на тое, дзе яго хутчэй за ўсё можна знайсці, роўнасільна выпаўненню агульнаабавязковага доўгу быць чэсным».

Такія ж заўвагі тычацца зробленага А. Кляўчэнем аналізу творчасці і дзейнасці Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага. Не адпавядае рэчаіснасці сцвярджэнне, што калі названыя асобы мелі прозвішчы «Полацкая» і «Тураўскі», то гэта сведчыла аб тым, што яны мелі пашану да сваіх родных гарадоў і іхніх жыхароў. Згодна навуковай дысцыпліне антрапаніміцы, што вывучае заканамернасці стварэння і развіцця ўласных імёнаў, гэтыя прозвішчы азначалі толькі тое, што азначалі, — паходжанне Ефрасінні і Кірылы з пэўных гарадоў і былі выбраны не імі самімі, а іхнім асяроддзем.

Таму гэта ніяк не магло адлюстроўваць «больш высокі ўзровень іх свядомасці і самасвядомасці».

Іншым разам аўтар хваліць у гістарычных персанажах супрацьлеглыя погляды. У вобразе Рагнеды ён, спасылаючыся на М. Ермаловіча, лічыць вартым пахвалы імкненне да заваявання Полацкам незалежнасці — гэта значыць, цэнтрабежнае імкненне, «непрымірымасць» да Кіева, а ў Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага станоўча адзначае іхняе рашучае асуджэнне міжусобнай барацьбы, г. зн. цэнтраімклівае імкненне. Няўжо за стагоддзе з іншым між Рагнедаю і Ефрасінняй вартасці ў свядомасці люстэркава памяняліся?

Дзіўным выглядае прыпісванне Ефрасінні /1110—1173/ і Кірылу /1130—1190/ закліку да аб'яднання /каго?/ супраць мангольскай навалы, якой на Беларусі не было. Аб гэтай навале рускія летапісцы згадалі ўпершыню ў 1223 годзе.

Лёгка ж перакачоўваюць характарыстыкі, якімі акрэсліваліся імкненні дзеячаў, што выступалі за адзінства колішніх кіеўскіх валоданняў, уключаючы захопленае Полацкае княства, на тых, якія, на думку А. Кляўчэні, з'яўляліся прадстаўнікамі ўзнікаючай асобнай беларускай свядомасці.

Здзіўляе вольнае абыходжанне аўтара артыкула з тэрмінам «Рэнесанс», які ён распаўсюджвае на Беларусь XIII ст. Культура Рэнесансу /Адраджэння/ цесна звязана з зараджэннем буржуазіі, якой у апісваемыя А. Кляўчэнем часы на Беларусі не было. Гэтая культура была раннебуржуазнай, узнікала на глебе выспяваючага ў нетрах феадалізму новага капіталістычнага ўкладу, якога таксама на гэтай зямлі не было на тыя часы. Самая назва — Адраджэнне — указвае на сувязь новай культуры з антычнасцю, а яна ў творчасці Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, у

запавет не мае сілы. Такім, які ён ёсць, любіць яго архімандрыт не хоча, нават не стараецца.

У сцэне «дзікай праявы» ў царкве ўступілі ва ўзаемадзеянне дзве злыя сілы, якія па законе дыялектыкі не прыводзяць да адмаўлення адно другога, а наадварот — памнажаюць зло. На пагрозу Гаршка «Я зраблю з вамі іначай» архімандрыт адказвае новым злом — выклікае паліцыю. Гэты ўчынак чалавека, які павінен быў бы жыць па боскіх запаведзях, абуджае яшчэ большае зло ў душы блудніка. «А злосць тым часам і падпірала яшчэ, і была балючай, дужа вострай ад зняможанасці і ўніжэння. Арыштант! Сацыяліст! Я табе пакажу! Я цябе дапяку!» — кіпіць Гаршчок.

Відавочна, што Евангельская этыка пэўным чынам уплывае на філасофскую думку М. Гарэцкага ў аповесці «Дзве душы». Сцэна «дзікай праявы» ў царкве дапамагае зразумець, што пісьменнік выкарыстоўвае Евангельскае правіла «не праціўся злу», аднак да канца яго не прымае, бо добра ведае: нікому не рабіць у жыцці зла — не азначае, што так можна перамагчы зло. М. Гарэцкі не можа прымірыцца са злом і выносіць яму свой, асаблівы прысуд: зло ў бясконцым сваім памнажэнні абавязкова самаразбуральнае, лічыць празаік. Думка знаёмая ў філасофіі. Спашлёмся на Фаму Аквінскага: «Зло хоць і заўсёды прыніжае дабро, аднак ніколі не можа яго перамагчы; ... нішто не можа быць цалкам і дасканала злым, калі б нешта было цалкам злым, яно б нішчыла сябе».

М. Гарэцкі паказвае, што ў рэшце рэшт зло ў душы «сацыяліста» дасягае кульмінацыі ў сваім самаразбуральным памнажэнні, а «прабандураная» вячэра ў Гаршка сваім зместам нагадвае «тайную вячэру» ў Хрыста.

«Што душа мае — тым і прымае», — такімі словамі запрашае кульгавы Гаршчок гасцей на «вячэру». Што мае душа былога манаха, тлумачыцца больш праз яго дзеянні: «пазачыняў дзверы», «пазавешваў вокны», «убіў вочы ў дол». Гасцей, якія трапілі на «вячэру», аб'ядноўвае не толькі вобраз Іуды-Гаршка, але ж і асабістая самаразбуральная сіла, бо ўсе яны страцілі веру ў жыццё.

Гарэліка можна назваць любімым вучнем кульгавага Хрыста. Чаму ж вучыўся ён у свайго настаўніка? Злу: распраўляецца з сялянскімі паўстаннямі. «Я быў у ласцы ў нябожчыка Гаршка. Заслужыў гэтую ласку цэлымі цэбрамі густой запечанай чорнай крыві паўстанцаў», — Гарэлік прызнаецца пазней Абдзіраловічу. Жахлівае прызнанне. Васіль жа адзначае, што гэта Гаршчок быў своеасаблівым вучнем Гарэліка: «Убіўся ў ласку к нашаму Гаршку, навучыў яго п'янстваваць, страляць у невінаватых людзей». Дык ці «вучань» гэта?

Выразна ў творы прасочваецца думка, што такія гарэлікі, дэманы зла, народжаны крывавым часам, пануючай тады ідэалогіяй. Яны загубілі былога манаха, шукаюць чарговую ахвяру, каб давесці да самазнішчэння душу, у якой яшчэ засталося месца дабрыні.

Аблашчаны злом Гаршчок, пасля таго, як пакінуў басяцкае прыдонне, як той гогалеўскі Хома Брут з вядзьмаркаю на спіне, трапляе ў кола асаблівых д'ябальскіх салодкіх пачуццяў: «Гаршчок асцярожна і быццам сонны злез на прыступках доўгай лесвіцы да ракі, з нейкай дзіцячай радасцю заскрыпеў чаравікамі па берагавому жвіру, адчуваючы блізасць да прыроды... Свежы ветрык абдуваў твар халадком... Вецер уздымаў курчавыя, даўно не чэсаныя валасы... прыгаршчамі набіраў вады і мыўся». Як блізкі гэты тэкст да гогалеўскага: «Он /Хома Брут/ опустил голову вниз и видел, что трава, бывшая почти под ногами его, казалось, росла глубоко и далеко и что сверх ее находится прозрачная, как горный ключ, вода, и трава казалась дном какого-то светлого, прозрачного до самой глубины, моря».

Калі Хома Брут М. Гогаля знаходзіць патрэбную малітву, каб аддзяліць сябе ад Зла, тую малітву, якая паядноўвае чалавека з Богам, прасвятляе разум, бароніць ад скрухі, дык Гаршчок тут бездапаможны.

Пісьменнік то імкнецца прасвятліць свайго героя хрысціянскім Богам, то свядома адмаўляе свайму герою ў Малітве, судзіць яго Малітвай, не пакідае надзеі на выратаванне яго душы. Адказ на гэтую супярэчнасць трэба шукаць у своеасаблівых адносінах М. Гарэцкага да бальшавіцкага часу. Вядома, што адразу пасля Кастрычніка Гарэцкі-публіцыст шматразова ў сваіх артыкулах звяртаецца да тэмы Рэвалюцыі і паслярэвалюцыйнай Беларусі. Ён «цвёрда верыць, што ахвяры, прынесеныя на алтар рэвалюцыі, не будуць дарэмнымі». Але ўжо ў 1919 годзе, калі ў краіне панавалі хаос і анархія, М. Гарэцкі, супрацоўнік бальшавіцкай «Звязды», звяртае ўвагу ў сваіх працах на тыя асаблівасці бальшавізму, якія ў хуткім часе прывядуць да сталінізму.

На старонках аповесці «Дзве душы» аўтар увасабляе крывавы бальшавіцкі час у вобразах Гарэліка і Гаршка, — характараў, абрабаваных злом, якое «пад рогат новых пішучых машынак» распачало барацьбу за ўладу над душой чалавека, грамадства, свету. І што яму да запаведзяў хрыстовых, калі яно Зло...?

**Алёна ІГНАЦЮК**

*г. Брэст*

Семінары

# АРЭШКІ З УРАДЛІВАЙ ГЛЕБЫ

**Акурат так сказаў пра маладых аўтараў, удзельнікаў сёлетняга традыцыйнага семінара творчай моладзі, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, адказны па рабоце з маладымі ў рэспубліканскім творчым саюзе, ён жа — старшыня прыёмнай камісіі СПБ У. Паўлаў. Ён прыклаў, дарэчы, немалыя намаганні, каб семінар, нягледзячы на цяжкасць з фінансаваннем, усё ж адбыўся. З разуменнем паставіўся да запатрабаванняў маладой літаратурнай змены рэспублікі старшыня Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Падгайны: камітэт якраз і дапамог арганізатарам семінара грашовымі сродкамі.**

Сабралася гэтым разам у Доме творчасці «Іслач» 36 пачаткоўцаў. Меркавалася, што кожнае абласное аддзяленне СП Беларусі прышле на семінар па пяць чалавек, а ў дадатак сваіх кандыдатаў прапануюць часопісы «Першацвет» і «Маладосць». Ды аказалася, што ў апошніх вельмі шмат перспектыўных аўтараў. Так што давялося праводзіць своеасаблівы конкурс.

Працавала дзве секцыі — паэзіі /ёй кіравалі У. Паўлаў, А. Камароўскі і А. Масарэнка/ і прозы /Г. Далідовіч, П. Місько, Г. Шупенька/.

Па секцыях праходзілі і асноўныя заняткі, дзе сярод новых сяброў маладыя абгаворвалі свае праблемы, давалі ацэнкі творам адзін аднаго. Адбыліся і практычна-тэарэтычныя заняткі. У. Юрэвіч правёў гутарку «Мова ў творчасці пісьменніка», А. Савіцкі, Л. Прокша, Х. Жычка паразважалі на тэму «Біяграфія ў творчасці пісьменніка».

Удзельнікі семінара сустрэліся са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнкам, з народным пісьменнікам Беларусі І. Шамякіным, галоўным рэдактарам часопіса «Полымя» С. Законнікавым, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» К. Камейшам, а таксама з С. Грахоўскім і Ю. Свіркам.

На просьбу нашага карэспандэнта падзяліцца ўражаннямі аб семінары У. Паўлаў сказаў:

— Знаёмства з маладымі аўтарамі мяне шчыра ўзрадавала. У нашай літаратуры ёсць будучыня. Як бы цяжка ні ішло Адраджэнне, колькі б ні знаходзілася ахвотнікаў не выконваць Закон аб мовах, але працэс росту нацыянальнай свядомасці не спыніць. Сярод семінарыстаў было нямала таленавітых аўтараў, якія ўжо сёння могуць сказаць сваё слова ў літаратуры. Трох жа з іх, мне думаецца, можна, нават трэба рэкамендаваць для прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Гэта паэты Аляксандр Кіеня з Гомеля і Кастусь Цыбульскі са Слуцка, празаік Іван Сяргейчык са Слоніма — чалавек, які двойчы прайшоў праз пекла Афганістана.

Аляксандр Капусцін

Авохці мне

# ГЭЙ, НАПЕРАД! ГЭЙ, НАЗАД!

## ПАВОДЛЕ Б. РАСКАПЭНДЫ-БАБЭЦКАГА

Шумеў-грымеў аб'яднаны кангрэс дэмакратаў і плутакратаў, народнага фронту і партыі камуністаў. **Абмяркоўвалі** эканамічна-культурную дактрыну рэгіёна: «Гэй, наперад!» нам свеціць альбо «Гэй, назад!»?.. Штармавое мора так не бурліць, як бурліў высокі сход.

— Гэй, наперад!

— Гэй, назад!

Зала ўзрывалася то шалёнымі воплескамі, то ўтрапёным тупатам імпартных чаравікаў па бліШчаста-люстраным паркеце.

— Сёння, шаноўныя дэлегаты, нам неабходна прыйсці да кансенсусу. Тады наша рашэнне будзе вечнай каштоўнасцю, і мы назаўсёды застанёмся ў гісторыі! — ахрыплым, як у драча на балоце, голасам заклінаў плюгавы, нібы прыхоплены спякотаю струк перцу, старшыня кангрэса.

Дэмакрат з галавой рэдзькай угору і плутакрат з галавой рэдзькай уніз сядзелі побач.

— Ты за што?

— А ты за што?

— За справядлівасць і прагрэс.

— І я за тое ж.

— Прымем дактрыну, і гуртам, з песнямі — у вялікі паход, — ледзь хаўкаў за кіраўнічым сталом перасохлы струк. — Памятаеце, як у класіка? «Луг заліўся галасамі. На яго ва ўсе канцы выйшлі стройнымі радамі загарэлыя касцы!..»Хто за «Гэй, наперад!»? — прашу галасаваць!

Абедзве рэдзькі паднялі рукі.

— Хто за «Гэй, назад!»?

Іхнія белыя пляскатыя далоні зноў ускінуліся над галовамі.

— Ты што? — усміхнулася рэдзька ўніз.

— А ты што? — бліскотна міргнула круглым вокам рэдзька ўгору.

— Гэтую руку бачыш? Левая. Яна бліжэй да сэрца. Ёю я — за «Гэй, наперад!»

— А навошта праваю за «Гэй, назад!»?

— Апанентам лапшу павесіў.

— Дык і я ж... Ты мне — я табе. Хі-хі...

— То, значыцца, падвядзём рысу.

Як выштурхнутыя катапультай, рэдзькі адначасова ўсхапіліся з мяккіх крэслаў.

— Увага! — раўнулі грымотнымі, нібы з гармат стрэлілі, галасамі.

Зала знямела. Уміг адчула: зараз пачуе нешта велічна-глыбакадумнае, калі не геніяльнае.

— Значыцца, так: «Гэй, наперад цераз назад!» Цьфу, д'ябал, пераблыталі... «Гэй, назад цераз наперад!»

Перасохлы перац каўтануў з хрустальнай шклянкі.

— Уф-ф! Мудра! Прымаецца, шаноўныя дэлегаты, цалкам!

— Уф-ф! — уздыхнула з палёгкай зала.

Сцяпан Сініца

# ЗАДАЧКІ ДЛЯ КЕМЛІВЫХ

1. У дзіцячым выдавецтве запар выйшлі дзве кніжкі. У пісьменніка А. — тыражом у 12 тысяч асобнікаў і ў дырэктара таго ж выдавецтва — у 120 тысяч асобнікаў.

Ці азначае гэта, што спадар дырэктар у дзесяць разоў таленавіцейшы за пісьменніка А.?

2. Графаман за дзень піша 8 друкаваных старонак, за тыдзень — 56, за месяц — 240.

Колькі ён напіша за дваццаць год творчай дзейнасці і якую колькасць накрывак для слоікаў можна купіць на ўсю гэту макулатуру?

3. Каб пачаставаць даму, пісьменнік заказаў дзве булачкі і бутэльку мінеральнай. За адну булачку дама плаціла сама.

Кім для яго з'яўляецца дама:

а/ першай жонкай;

б/ сяброўкай другой жонкі;

в/ калегай па пяры.

4. Здольны паэт п'е досыць часта. Таленавіты — часта і памногу. Бяздарны — амаль непітушчы. Як распазнаць генія, калі ён народзіцца ў наш час?

5. Старшыня творчага саюза за 7 гадоў знаходжання на пасадзе вывучыў 14 беларускіх слоў. Тры з іх ён ужывае актыўна.

Колькі слоў ён засвоіць, выйшаўшы на пенсію, калі пражыве да двухтысячнага года?

крыжы Лазара Богшы, на якія спасылаецца А. Кляўчэня як на рэнесансныя з'явы, не адзначалася. Для італьянскага грамадства, у якім развіваўся сапраўдны Рэнесанс, характэрнае прабуджэнне глыбокага і шырокага інтарэсу да антычнай культуры. Рэнесанс быў спробаю ўваскрасіць гэтую культуру, дастойную вечнага пераймання. Таму дзеячы Адраджэння адраджалі ў сваіх творах стыль лацінскіх аўтараў, вывозілі з Візантыі і вывучалі грэчаскія рукапісы. Ці ўсё гэта падобна да таго, што адбывалася на Беларусі ў XIII ст.?

Для Адраджэння быў характэрны свецкі характар, творчасць жа Ефрасінні, Кірылы, Лазара Богшы насіла царкоўны характар. Для Адраджэння характэрны гуманістычны накірунак, А. Кляўчэня не можа прывесці аніводнага прыкладу гэтага накірунку ў творчасці асоб, якую вывучае.

У артыкуле «Зямныя, святыя людзі» вобраз мінулага дэфармуецца з пункту погляду палітычных і ідэалагічных патрэб. Містыфікацыя гісторыі выклікаецца нейкай пагардай да фактаў, жаданнем сказаць нешта большае за тое, што дайшло да нас у скупых радках крыніц. Гэта выклікаецца старымі прынцыпамі, выпрацаванымі за дзесяцігоддзі таталітарнага ўплыву на навукоўцаў, жаданнем навязаць гістарыяграфіі штучнае ўяўленне аб мінулым, груба ўмяшацца ў гістарычную аснову з мэтаю дасягнення неадкладнага палітычнага эфекту. Сёння, хоць яшчэ не зніклі старыя міфы, з'явіліся і новыя пагрозы гістарычнаму выхаванню беларускага грамадства.

У тым самым нумары «ЛіМа», дзе надрукаваны артыкул А. Кляўчэні, на суседняй старонцы ўбачыў свет, як заўсёды, пераканальны, прафесійны артыкул Юрыя Драгуна «Воссоединение» ці звычайны захоп?». Ён канчаецца абзацам, які я дазволю сабе працытаваць: «Настаў час, калі гісторыкам прадставілася магчымасць напісаць аб'ектыўную гісторыю свайго народа. Але, барані Божа, кінуцца ў другую крайнасць і старыя рускія вялікадзяржаўныя міфы замяніць новымі міфамі няхай сабе і «народнымі-беларускімі», да чаго заклікаюць некаторыя аўтары».

І апошняе: здаецца, мае папярэднія працы па беларускай гісторыі не могуць даць падставы лічыць, нібыта я выступаю супраць распрацоўкі самой тэмы, за якую ўзяўся А. Кляўчэня. Мне адно хацелася б звярнуць увагу на небяспеку, якая хаваецца ў легкадумных, неперакanаўчых, мадэрнізуючых, анахраністычных разглядах тэмы.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ**

*г. Санкт-Пецярбург*

**АД РЭДАКЦЫІ. Друкуючы палемічны ліст В. Грыцкевіча, мы ўсё ж лічым неабходным выказаць свой пункт погляду на праблему. А ён заключаецца ў тым, што нашаму дэнацыяналізаванаму грамадству наўрад ці пагражаюць сёння новыя міфы. Наадварот, гэта якраз той выпадак, калі міфы якраз не пашкодзілі б.**

**Спрэчным падаецца і патрабаванне кожную думку абгрунтоўваць спасылкай на пісьмовую крыніцу: метады лагічна-рацыянальнага накірунку таксама маюць права на існаванне. Па астатніх пазіцыях маглі б, пры жаданні, паспрачацца прафесіяналы...**

Паэзія

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



# Я НЕ ПРАШУ У БОГА МНОГА...

●

**Прачнуся з жахам, безгалосы —**
**Прапала музыка ў душы.**
**Не чую музыкі ў бярозах,**
**Не чую музыкі ў нябёсах,**
**А вы мне кажаце:**
**«Пішы».**

**Сам Бог маўчыць, падцяўшы вусны,**
**Відаць, я многа награшыў...**
**І д'ябл не шэпча слоў спакусных.**
**А вы мне кажаце:**
**«Пішы».**

**Гляджу з трывогай на дарогу.**
**Па ёй брыдуць глухія дні.**
**Я не прашу у Бога многа:**
**Вярні ім музыку,**
**вярні!**

●

**Ты кажаш:**
**«Пята Ахілесава»,**
**А я чую:**
**«Пята Алесева».**
**Вазьмі ў мяне поле,**
**вазьмі ў мяне лес,**
**І я згіну,**
**як той Ахілес,**
**Не ўвайшоўшы ні ў міфы,**
**ні ў кнігі,**
**Я сканаю па-нашаму,**
**ціха,**
**Як жораў**
**у меліярацыю,**
**Як зямляк**
**у эміграцыі.**
**...Вось такая у нас бяда.**
**Вось такая у нас пята.**

## СЛАВЯНСКІ МАТЫЎ

**Ні сініц, ні жорава,**
**Толькі чорна ворыва,**
**Ды вісіць над ворывам**
**Крык сівога ворана.**
**Пад яго крылом**
**Пакаці шаром.**
**Толькі стог-шалом**
**Пад яго крылом.**
**І куды ні кінь —**
**Толькі сінь да стынь.**
**Ні адной душы —**
**Толькі скавышы.**
**Скавышы — нажы.**
**Скавышы — нажы.**
**Ні сініц, ні жорава,**
**Толькі чорна ворыва.**
**Ні сяброў, ні ворагаў,**
**Толькі чорна ворыва.**

## ТРЫЯЛЕТ

**Душу працінае вецер,**
**Вецер... як у паэме Блока.**
**Даруй мне уздых глыбокі:**
**Душу працінае вецер.**
**О, як адзінока на гэтым свеце,**
**Хоць столькі насупраць вокан!**
**Душу працінае вецер,**
**Вецер... Як у паэме Блока.**

●

**Вам ахвота крычаць,**
**Мне ж — паплакаць крадком,**
**Мне б крыху памаўчаць**
**З сябруком Маруком.**

**І куды мы імчым?**
**І чаго мы крычым?**
**Памаўчым над святым,**
**Аб святым памаўчым.**

**Слоў разменную медзь**
**Колькі можна збіраць...**
**Памаўчаць трэба ўмець,**
**Трэба ўмець памаўчаць.**

## ЛЕТА

I

**Добра устаць да сонца,**
**Як раіць знаёмы класік,**
**Ісці за мычаннем сонным**
**Зорак, Ізаўраў, Красак.**
**Сонца яшчэ за борам,**
**Пэўна, салодка дрэмле.**
**Пеўні нястройным хорам**
**Будзяць яго дарэмна.**
**Цялятка пяшчотнай пыскай**
**Цэдзіць ваду з азерца.**
**Класік у стольным Мінску**
**Толькі яшчэ кладзецца.**

II

**Ты хвалішся: «Паголена»,**
**А я жартую: «Стрыжана».**
**Усмешка задаволена**
**Вусы варушыць рыжыя.**
**Хоць показка няновая,**
**Душа касца ўсцешана:**
**Жытнёвая, вясковая,**
**Чакае над алешынай.**
**— З утомаю!**
**— З утомаю!**
**Спрадвечнае... Знаёмае...**

III

**Нядрэмны ветах**
**Павіс над домам**
**На схіле лета,**
**Над стромай стомы.**
**Над зжатай нівай,**
**Над полем ячным,**
**Над сном шчаслівым,**
**Пшанічна-смачным.**

●

**Цік-так, цік-так, цік-так —**
**Гэта гадзіннік.**
**Тук-тук, тук-тук, тук-тук —**
**Гэта маё сэрца.**
**Цок-цок, цок-цок, цок-цок —**
**Гэта твае абцасікі.**
**Гадзіннік спяшаецца,**
**Сэрца хвалюецца,**
**Абцасікі познецца:**
**Цік-так, цік-так, цік-так...**
**Тук-тук, тук-тук, тук-тук...**
**Цок-цок, цок-цок, цок-цок...**

●

**Мне пяро гусінае**
**Неба скіне сіняе.**
**Лістапад на золаку**
**Мне заплаціць золатам.**

## СТАГІ

**Стагі,**
**стагі,**
**стагі,**
**Стагі у кожным сне.**
**Так сніў свае «Стагі»**
**Калісьці Клод Манэ.**
**Стагі,**
**стагі,**
**стагі,**
**Стагі — мае лугі,**
**Гербарыі ўспамінаў,**
**Стагі мае тугі**
**Пад небам жураўліным.**

Проза

Чуў няраз: кажуць, што я жыд.

Надалей я буду змушаны пазбягаць гэтага слова, хоць і перакананы, што яго трэба неадменна вяртаць у нашую мову: адмоўнага адцення яно ў нас ніколі не мела, «яўрэй» — чужароднае, а «габрэй» — крыху штучнае.

А яшчэ мне распавядалі — гэта ўжо ў вочы, ад уласнай персоны, падчас аднае п'янае п'янкі ў слынным бары Дома літаратара, што я, разам з адным віленскім версіфікатарам-бізнесменам, тутэйшым летапісцам-нацдэмам і давыд-гарадоцкім эстэтам — сябра беларускалітаратурнай жыдамасонскай ложы, прычым не проста сябра, а яе духоўны натхняльнік, ідэолаг і каардынатар, словам, магістр, які, трэба сказаць /тут мой суразмоўца прыпыніўся, выпрабавальна чакаючы, што, нецвярозы, я засвячуся затоеным гонарам/, не без таленту й поспеху выконвае загады з н а ў з в ы ш ы.

І сказаў мне гэта, трэба адзначыць у сваю чаргу, чалавек не толькі таленавіты, але і мой мала не прыяцель.

Падобныя паведамленні не маглі, натуральна, пакінуць мяне абыякавым. Я чамусьці яшчэ ад юнацтва заўсёды дужа цікавіўся рознымі нацыянальнымі ды рэлігійнымі адрозненнямі ў чалавечым грамадстве. І ніхто мяне да гэтага не падштурхоўваў, аніводны чалавек, — першага ў жыцці сваім нацыяналіста, беларускага, я сустрэў у дваццаць сем гадоў і толькі тады пераканаўся, што на сподзе маёй, здавалася б, касмапалітычнай душы гарыць той самы агеньчык, што і ў ягонай. Але адкуль да таго ў мяне быў гэты інтарэс? Ці не можна вытлумачыць яго, так бы мовіць, складанасцю майго паходжання, неадэкватнасцю ў нацыянальнай прыналежнасці і самапачуванні, глыбіннай разнаітасцю, раздзёртасцю гэтага самапачування?.. Як гэта ў Шраер-Пятрова: «Моя славянская душа в еврейской упаковке...»

Памятаю, якая ўражаная была прадаўшчыца кнігарні, калі я, падлетак са звычайнай знешнасцю, не «забіты» і не ў акулярах, купіў у яе, можа, на адзіны свой рубель, кнігу пра нацыяналістычныя рухі Усходняй Еўропы. Дарэчы, з яе згадваецца — адразу ж кідаю камень у свой «месіянскі агарод», — што адным з лідэраў румынскага нацыянал-сацыялізму быў паляк.

У выніку, пры такой пра мяне пагалосцы і гэткай невытлумачальнай для звычайнага чалавека абвостранай увазе да пэўных пытанняў, я /па мажлівасці, абмежаванай неарыстакратычнасцю продкаў/ даследаваў — шляхам роспыту ды візуальнага вывучэння антрапалагічных асаблівасцей радні — сваю генеалогію.

Справаздачу, няхай сабе і самую сціплую, аб гэтай спробе дапасці да каранёў рабіць не буду. Тыя, што **кажуць**, усё адно не павераць. Праігнаруюць і мае азіяцкія скулы, і нават дурны ў жыццёвых адносінах розум. Ім дастаткова зірнуць на сівыя мае кучаравыя пэйсы, чорную бараду і кароткія ногі пры доўгім тулаве. А вечная туга ў вачах? Марныя тут любыя мае доказы.

Да жыцця трэба ставіцца па-філасофску.

Так і быць: аб'яўлю сябе надгабрэем — бо не прызнаюся ў сваім паходжанні, надпаўжыдкам — гэта ўвогуле нешта цьмянае і зручнае ў любых маніпуляцыях, надбеларусам — толькі ж у дваццаць сем гадоў пачаў пісаць па-беларуску, надфранцузам — яшчэ са спецыялізаванай школы пачуваюся франкафонам, і, нарэшце, надшведам і надлапландцам — даўно высветліў праз бабулю, яшчэ да расследаванняў, што мой **прапрапрапрадзед** быў лейтэнантам шведскага войска, па паходжанні — лапландцам /саамі, лопарам, самаедам/, чым, зрэшты, і можна растлумачыць мае скулы. І, можа быць, маё самаедства.

Зраблю гэта дзеля тых успамінаў, пачуццяў, думак, што ажылі ў маёй душы ў сувязі з самастойным аматарскім даследаваннем без цыркуля — мой чэрап, мяркую, і з цыркулем цяжка пэўна аднесці да якоесьці расы, а тым больш этнічнае групы.

Даўно заўважыў у нашым літарацкім асяродку: варта толькі з'явіцца ў якойсьці паэтычнай ці празаічнай галаве дзвюмтром клёпкам, як адразу ж пачынаюць вызначаць ягонае нацыянальнае паходжанне ва ўказаным ужо накірунку. І вынік дужа часта неадменны. А вось графаманы ніколі не бываюць габрэямі. Не тое што ў іхніх «тусоўках» — нават у іхніх гмахах габрэяў няма. Жыдоўскі дух там не можа месціцца. А калі й жывуць побач з імі габрэі, дык толькі перашкаджаюць — і проста жыць, і ўзнесціся вышэй за аблачыны.

Думаю: а ці можа ён месціцца, гэты дух, у сябры маім і куме, паэце Леанідзе Галубовічу? Звярніце ўвагу на ягоную любоў да Пастэрнака й Мандэльштама і надта падазроны нос — шнобель, так бы мовіць. І сама меней чатыры клёпкі ў ягонай паэтычнай галаве. Да таго ж, доўгія гады ягонага жыцця прайшлі ў рэгіёне былых мястэчкаў Капыль і Клецк. Доказы неабвержныя.

Цалкам па-за падазрэннямі застаецца ў нашым асяродку, як на маю думку, хіба што адзін паэт Анатоль Сыс, па саманазову — Ісыс Хрыстос з ягонай «наколкай на босых нагах»: «Они встали». Ніякі габрэй такіх наколак і ў вершах не стане рабіць. І хіба нашчадак якогасьці віфлеемскага цесляра можа гэтак вылучацца не толькі талентам, але й любоўю да моцных напояў?

Хоць, зрэшты...

Згадваю з маленства Ваньку Масквіча.

Масквічом яго звалі ўжо не памятаю чаму. Мусіць, таму, што з Масквы ён быў. А можа, — працяла мяне толькі што здагадка, — таму, што «чакушкі» тады былі «маскоўскія»?

Але вось чаму яго звалі Ванькам?

Гэты найвялікшы ў нашай вёсцы прапойца быў габрэем. Маленечкі, нягеглы, наш вясковы электраманцёр быў заўсёды п'яны.

/Дарэчы, памянёныя ўжо два паэты, кум і версіфікатар, таксама былі электрыкамі і не вылучаюцца буйнасцю камплекцыі, а трэці, хоць і мажны, меў на тэлевізіі непасрэднае да электрычнасці дачыненне; першы быў у свой час вялікім аматарам выпіць, дый другі піттвом ніколі не грэбаваў, — дзіўныя, дальбог, акалічнасці./

Мы, дзеці, увесь час смяяліся з яго. Ён нязлосна, сам пасмейваючыся, агрызаўся, як роўны з роўнымі — зрэшты, і па росце. і па самапачуванні ў жыцці гэта прыкладна так і было, — агрызаўся, хістаючыся, пагойдваючыся з боку ў бок, пакуль не забіла яго, нябогу, маланкаю ў навальніцу ці токам у час працы, не памятаю ўжо. Аднак і мы ніколі не смяяліся з яго злосна, ніколі не шпурлялі ў яго грудкамі зямлі, як маглі б, уважаючы мала не за роўнага. Шкадавалі мы яго, усё роўна як нешта стоена разумелі, бо наўрад ці што важкае было тады ў нашай свядомасці.

Зрэшты, мы тады ні з кога не смяяліся злосна.

Памятаю сцэнку каля сельпо, якую мы аднойчы назіралі ў спякотны дзень, запыніўшыся па дарозе да «копанкі» — сажалкі.

Масквіч набыў тады пляшку «Волжского» і выйшаў на ганак. Да яго адразу ж пашыбаваў кульгавы стары Пётра Гучок ды навязаўся ў кампаньёны. Хоць што там дзяліць — нейкую няшчасную паўлітроўку пладоваягаднага, сама болей васемнаццаць, як казалі тады ў нас старэйшыя хлопцы, уломаў па галаве? Нават мы ўжо тое разумелі, бо пацягвалі паліху бражку на печцы або «дурнічную» пад сталом.

Ванька быў чалавек шчодры, няўпэўнены і безадмоўны, таму хітры Гучок, якога мы ўсе не любілі за ягоную злосць і дражнілі спадцішка «ванцачом кульгавым», імгненна ўступіў у долю — не адплаціўшы, канечне, грошай. «Ведама ж, Ванька Масквіч!» — падумаў ён, як вырашыў я тады. «Ат, жыдок!» — скеміў ён, напэўна, як я разумею цяпер.

Божа літасцівы, як жа выцягнуўся твар у Масквіча, калі Гучок асушыў нагбом больш за паўпляшкі! Мне здалося, у яго ажно слёзы выступілі на вачах, такі зусім ужо маленечкі, зморшчаны і скамечаны ён стаў. Шыя ў яго, памятаю, выцягнулася.

Ідучы далей да копанкі, мы аднадушна асудзілі Гучка. І зусім не смяяліся з Масквіча. Вельмі ўжо нам шкада яго стала праз ягоную крыўду з-за гэтай пляшкі — аднае з яго бясконцай чарады пляшак з вадкасцямі чырвонымі, жоўтымі, бурымі, празрыстымі, мутнымі...

Ці штосьці іншае цябе, Масквіч /даруй, нябожчык, за фамільярны зварот — я ўжо старэйшы за цябе/, загубіла? Тое, з чаго пачыналіся пляшкі?.. Выхаванец дзіцячага дома, ён апынуўся ў вёсцы, такі ад усіх адрозны — куды ні глянь... Людзі ў нас не злыя — але ж...

Дарэчы, мы ніколі не дражнілі яго «жыдом». Мы й слова такога не ведалі тады. Ат не!.. Ведалі! Мы проста не лічылі яго дрэнным.

Адзін з самых цікавых успамінаў дзяцінства, адна з найярчэйшых у ім падзей, што здараліся зрэдчас, — «Жыд прыехаў!»

Пачуўшы гэта, мы бяжым, што ўтрапёныя, з радаснымі енкамі, з майго надворка на вуліцу, і самі, услед за дарослымі, крычым з захапленнем: «Жыд прыехаў!»

Гэта прыязджаў на калёсах габрэй-анучнік, і ўсе тады зносілі яму свае рызманы, выменьваючы іх на мала калі бачаныя намі гарадскія забаўкі: паветраныя шары, свісцёлкі, пісталеты з пістонамі, якую-небудзь драўляную выгінастую змяюку, — што бралі дарослыя сабе, не памятаю, гэта мяне тады абыходзіла.

Які быў «жыд»?..

Я дастаткова начытаўся Шолам-Алейхема, Бабеля і Кановіча, нагледзеўся рэпрадукцый карцін Шагала, Герша Інгера ды іхніх паслядоўнікаў і мог бы размалёўваць тут экзатычнага тыпа, аднак маніць не стану: кожнага разу анучнік, мабыць, прыязджаў іншы, а можа, тады ўжо і мала адрозны ад беларускага селяніна, прынамсі даўжэзную бараду ці чорны капялюш я згадаў бы, — таму я яго і не памятаю.

# ГАБРЭЙСКІЯ МАТЫВЫ

Алесь АСТАШОНАК



## ФРАГМЕНТ НЯСКОНЧАНАГА РАМАНА

/Скажам, праваслаўнага святара — з'явішча ў дзяцінстве маім унікальнага, бо завітаў «поп» у нашую вёску ўсяго адзін толькі раз — бачу як сёння/. Затое памятаю пах сабраных з закуткоў ануч. Ён і дагэтуль казыча мне ноздры. У каморцы ж, адкуль выцягваліся анучы, стаяў і кубёлак з салам, і дзежка з агуркамі, і сушаныя яблыкі ў торбах, і цукар, які мы насыпалі на батон з маслам — наш торт, і паляндвіцы віселі, а галоўнае, куфар, які мала калі даводзілася бачыць адчыненым, нешта ў сабе ўтойваў. Анучы пахлі для нас святам, прысмакамі і таемнасцю. Вуліца з прыездам габрэя ператваралася ў адну вялікую расшкуматаную анучу, якую ён выцягваў потым у нас з-пад ног.

Пасля ад'езду анучніка заўсёды наставаў смутак, бо радасць знікала гэтаксама раптоўна, як і з'яўлялася, і, да таго ж, не кожнаму з нас даставалася якаясьці забаўка.

Дарэчы, яшчэ адзін успамін пра тое, наколькі не настроена было нашае, прынамсі, маё вуха на адчуванне габрэйскасці: у той «рускатворны» час я дужа незалюбіў сваё прозвішча, яно здавалася мне непрыгожым, простанародным, я нават саромеўся яго — шорсткасмешным было яно, як на мой слых, а вось прозвішча хлопчыка з піянерлагера — Гальперын — чулася мілагучным, так бы мовіць, інтэлігентным, арыстакратычным... Як зайздросціў я ўпэўненаму чарняваму жэўжыку, калі на ранішняй лінейцы яго выклікалі са строю ўзняць лагерны сцяг, і як баяўся я, што дзеля таго ж могуць неспадзявана выклікаць і мяне, баяўся, бо тады ж прамовяць гучна, на ўвесь лагер маё грубае, нізкае прозвішча...

Апрача Ванькі Масквіча, з габрэяў у вёсцы былі яшчэ Каця Забаўская і сям'я Майстравых.

Пра Майстравых багата расказваць няма чаго. Бацька іхні працаваў на невялічкай МТС каля торфараспрацовак, «завода», як мы казалі, і жонка ягоная, і ўсе дзеці, а было іх чацвёра — чарнявыя, смуглявыя, зусім не падобныя да нас — зваліся Майстравымі. Стасункі ў нас з малымі былі самыя звычайныя, а Майстар, паводле нашых назіранняў, ад усіх «заводскіх» толькі тым і адрозніваўся, што не бачылі мы яго п'яным. Нават акуляраў не насіў, хоць цяпер я іх на ягоны нос па-літарацку так і хацеў прышчапіць...

Калі з'ехаў у горад, бо пайшоў у школу, Майстравыя зніклі.

Ведама ж, не ў Палесціну падаліся — год быў яшчэ толькі шэсцьдзесят першы, як тады Майстравым было дабрацца да гістарычнай бацькаўшчыны?

Дзе яны цяпер майструюць?.. У Хайфе, Чыкага, Таронта? А мо пад якімі-небудзь Жыткавічамі — калі лёс і надалей кідаў бацьку іхняга па торфазаводах? Мала ў гэта верыцца, прынамсі, у дачыненні да дзяцей.

Хоць самыя бедныя з габрэяў майго дзяцінства, самыя «ніжняпрыступкавыя» на сацыяльнай лесвіцы, — засталіся. Эля і Ляля Малевічы, мае аднакласнікі-двоечнікі і суседзі па гарадской вуліцы, дзеці прыбіральшчыцы і дворніка, прадаюць квас. Барыс Фіглін, таксама з суседняе вуліцы, сын токара, — токар на заводзе, дзе прайшло жыццё і майго бацькі.

Тут літаратар з бара пэўна ўжо ўсміхнуўся з таго, як я разжаліўся, і распавёў безліч адваротных выпадкаў, асабліва мала звязаных з нашым агульным бедным дзяцінствам, вайною. Я багата ў чым з ім згаджуся. Мяне, напрыклад, калі я, маладым п'есапісцам, упершыню апынуўся ў драматургічнай Маскве, дужа там уразіла ўласная славянскасць. Усё роўна як я раптам прымераў на сябе нейкі такі касцюм, які й блізка раней не насіў.

А Каця Забаўская, з вёскі, жыла за тры хаты ад нас, у прыёмнае маці, беларускі Стэфкі. Каця трапіла да яе ў сорак першым, калі забілі ў менскім гета ейных бацькоў, і Стэфка, сама бяздзетная, выдала малое за сваё дзяўчо. Стэфка падаравала Каці жыццё, а тое падаравала Каці лёс гаротнай сялянкі: гаспадарка, завіханне на ёй «на знос», мужык-прапойца, мардабой, пераламаны нос, — словам, дужа распаўсюджанае вясковае бабскае шчасце.

З твару Каця на габрэйку цяпер ужо нічым не падобная, хоць у маладосці кідалася ў вочы адметнасцю сваёй пагляднасці. Гаварыла яна заўсёды па-беларуску, цяпер, праўда, як і ўсе ў нашай ужо гарпасёлачнай вёсцы, — на трасянцы, з выразным беларускім акцэнтам, а яшчэ й тутэйшымі асаблівасцямі: «А каб ты не ўстоў, што гэтак насмактоўся, пад плотам валёўся!»

Зрэшты, не. Каця гаворыць: «устоў... насмактоўся... валёўся» — але ніколі не стане клясці мужа свайго, хоць магла б рабіць гэта штодня. Яна нікога не стане клясці. Каця ціхамірная й пакорлівая і ніколі не ўздымае гвалту ў самых гармідарных вясковых чэргах.

Знак яна такі сама на сабе паставіла, ці жыццё так ёй назначыла, а мо людзі скарылі сцішыцца, змусіўшы ўсвядоміць сваю пазначанасць?..

Калі я ўбачыў яе аднойчы ў горадзе, ажно ў вачах зашчыпала: нагружаная сеткамі з хлебам, яна кудысьці брыла, і чаго толькі ні было ў хадзе яе і паглядзе — панурасць, стома, смутак, скаронасць і, галоўнае, прысутнасць ейная ў гэтым жыцці, месцы, часе, ва ўсіх прапанаваных лёсам абставінах, і, адначасна, суцэльная ў ім адсутнасць, усё роўна як яна й не існуе нават, а сніць.

А можа, бацька яе быў скрыпач, і маці пісала вершы, а ёй самой наканавана было стаць хоць бы доктаркай, на якую яна глядзіць цяпер у вёсцы знізу ўверх, хоць і вышэйшая ад яе ростам, бы саромеецца, што замінае, змушае звяртаць на яе, «простую», «вучоную» ўвагу...

Каця ніколі не з'едзе ў Ізраіль, яна й падумаць пра гэта не магла ніколі, хоць мае, бядачка, на гэта права большае, чым ці не ўся астатняя алія* — з-за аднаго толькі лёсу свайго. І дзеці яе, двоечнікі і абармоты, мабыць, таксама не з'едуць, калі толькі не будуць іх называць паўжыдкамі — не ведаю, ці спазналі яны гэта і як тое магло на іх паўплываць: можа, яшчэ большымі гіцлямі сталі. /Цікава, габрэйскае ж, мабыць, слова — гіцаль/.

Наколькі ўдзячная Каця Стэфцы?..

Грэшныя напісаў словы...

Як я ўжо сказаў, калі прыйшоў час ісці ў школу, мама, вечная ёй памяць, забрала мяне ў горад. Пачалася новая пара ў маім жыцці — зусім не ў банальным сэнсе «я стаў школьнікам».

Бо першыя яе паўгода, што здаліся мне даўжэйшымі за ўсё застылае ў памяці папярэдняе, былі ў мяне, даруйце за гучнае слова, трагічнымі.

Я не магу тут запыняцца на той маёй драме, бо напісаў ужо пра яе апавяданне «Беларускі акцэнт». Скажу толькі, што гора маё было праз беларускую мову, якой я здзівіў горад, і пагарду да яе, якой горад здзівіў мяне.

Была ў мяне тады яшчэ адна бяда, пра якую я раней нідзе не згадваў. Я нават ніводнаму сябру свайму пра яе не расказваў — і ў наступным аповядзе парушу табу на тэму, табу, якое ў маўклівай згодзе з свядомасцю і ўсімі яе формамі наклаў, не задумваючыся над гэтым, бо ёсць, відаць, у жыцці і самага гаваркога чалавека рэчы, якія ніколі не хочацца чапаць, нават сам-насам з сабою.

Мабыць, як многім габрэям не хочацца нават у думках прызнавацца сабе ва ўласнай габрэйскасці: ну навошта яму гэта, бедаку, калі ён даўно сябе лічыць рускім, венграм, літоўцам, і габрэйскасць гэтая клятая ўспамінаецца яму адно ў пакутах. Навошта чалавеку самому паказваць на сябе пальцам, тыкаць у раздзёртае колісь да крыві месца, калі пра месца гэтае ніхто ўжо даўно не памятае, не тое што не згадвае. Які гэта дурань сам пачне раздзявацца, раз тая ягоная часіна, калі ён хадзіў голы, даўно адышла нават для смехачоў у нябыт? Калі б я не быў літаратарам, то, мабыць, ніколі б не парушыў гэтага табу — дый, будучы ім, парушаю толькі цяпер, хоць самараздзяванне і ёсць адной з найістотнейшых рысаў нашае, так бы мовіць, прафесіі: тут мы поўныя антыподы манекеншчыкам, дакладней, іхнія заўсёдныя калегі, толькі ў адваротным сэнсе, са знакам мінус.

Я трохі абазнаны ў гісторыі еўраамерыканскай габрэйскай літаратуры на ідзіш, іўрыце і мовах краін-прытулкаў і магу сказаць: многіх пісьменнікаў гэтак «дасталі» з іхнім габрэйствам, што некаторыя з іх мала не ператварыліся ў антысемітаў і прыпісвалі суродзічам яшчэ большыя заганы, чым самі іхнія крыўднікі. /Даволі выразны тып — антысеміт-юдафоб/. А пісьменнікі — гэта ж зазвычай людзі высокай нацыянальнай свядомасці, не кажучы ўжо пра агульную духоўную. Нямецка-габрэйская літаратура ўвогуле была ні чым іншым, як уцёкамі ад габрэйства, і гэта не з'яўлялася простым нацягваннем маскі — габрэйскім духам у ёй амаль і не пахла, той вецер нёс нямецкія павевы.

Але я, сабраўшыся пераступіць мяжу, адно адзначу: тут я міжволі крыху зманіў, бо закрануў напачатку форму свайго чэрапа.

Бяда ніколі не ходзіць адна.

Ох і нацярпеўся ж я праз гэты свой чэрап!

Дарэчы, нарадзіўся я вагою дзевяцьсот грамаў /гэта не памылка, чытач/ і даўжынёю з батон, так што дагэтуль не магу ўцяміць, адкуль і гэты чэрап узяўся, і мой цяперашні цэнтнер вагі. З гэтым цэнтнерам мне нават смешна згадваць тыя пакуты, усё роўна як і не са мною яны былі. Вядома, цяпер я аніякага жалю да сябе, бедака малога, не адчуваю, аніякае крыўды на злоснікаў, — нібыта нейкая стужка пракручваецца ў мяне перад вачыма, якую я глядзеў даўным-даўно, і ў памяці ажывае амаль забыты, «пранафталінены» кінематограф.

Але якое дачыненне, запытаецеся вы, мае да габрэйства мой, няхай і шматпакутны, тым больш, славянскі, як я, здаецца, спрабую сцвердзіць, чэрап?

Не паспелі мае малыя суседзі па вуліцы і аднакласнікі перастаць здзекавацца з маёй мовы, як я, і не саскочыўшы нат на дзень з ненавіснага кавадла сваёй ад усіх адрознасці, трапіў пад новы молат, не менш жорсткі й бязлітасны.

Шмат галоў бачыў я ў сваім жыцці: і разумных, і дурных, і проста пустых, у трох частках свету — Еўропе, Азіі і Афрыцы, малых, вялікіх, квадратных, трапецыяпадобных, прамакутных, трохкутных, галоў-талерак, пляскатых, як блін, і галоў-гарбузоў, такіх круглых, што, здаецца, іх надзьмулі, але такі чэрап, як у мяне, я сустракаў толькі ў Геры Залмана, хлопца з суседняе вуліцы.

Яму, мяркую, цяжэйшы з ягоным чэрапам выпаў лёс. Я сустрэў яго нядаўна. Геру — не чэрап, хоць той, пра сваю адметнасць, мог, бы ў Гогаля нос, пачаць самастойна шпацыраваць па Менску. Сустрэў у чарзе ў гарэлачна-вінную краму і пераканаўся, што час нават за трыццаць з лішкам гадоў ні на каліўца не змяніў формы ягонага чэрапа, хіба што, узбуйніўшы памеры, выразней падкрэсліў прапорцыі. Гера Залман застаўся такі ж худы, як і ў маленстве. Горкае ў яго, відаць, жыццё. І, нягледзячы на іранічны мой тон, мне тут зусім не да смеху, а тым больш не выпадае смяяцца Геру. Я так размажнеў, такую наеў і напіў «будку» /так і просіцца на стэнд «Их разыскивает милиция»/, што антрапалагічна яна істотна аддалілася ад залманаўскай. Застаўся, праўда, вельмі кідкі лоб, больш таго, ён удвая павялічыўся з-за лысіны, але ж лоб, вы самі разумееце, — гэта яшчэ не галава. /Ні ў пераносным, ні ў прамым сэнсе — тут ужо гадайце самі, які сэнс больш прамы, а які — пераносны/. Відаць, таму й не пазнаў мяне Гера, а я не стаў да яго чапляцца, хоць і дужа хацеў даведацца пра ягоны пасляшкольны лёс.

Не ведаю, як дражнілі Геру — мы з ім праз нашую агульную адметнасць, мяркую цяпер, падсвядома цураліся адзін аднаго, — а мяне звалі «Огурцом», бо галава мая, выцягнутая й тонкая, нагадвала яйка. «Яйкам», пэўна, нязручна было дражніць — горш бы выгаворвалася. І потым, «яйка» якога роду? А я ж не «яно». Здольнасці экстрапаляцыі ў маіх крыўднікаў былі яшчэ недаразвітыя.

А ўяўляеце, што здарылася б, калі б мы пасябравалі? Калі б усяго толькі пачалі з'яўляцца на вочы дзятве разам?..

Гора хапала мне і без Залмана, як Залману — без мяне.

Рознымі шляхамі адыходзілі мы ад яго. Я стаў «хатнім» хлопчыкам, зарабіў сабе яшчэ адну мянушку — «мамчын сынок», бо на вуліцы бываў або адзін, або з маці. У выніку, спярша з-за беларускасці, потым — з-за чэрапа, пачаў вельмі шмат чытаць і вучыцца на адны пяцёркі, і быў адзіным на ўвесь клас хлопчыкам-выдатнікам, што зусім не ратавала мяне ад насмешак, а наадварот, паколькі хлопчыкі да старэйшых класаў пераважна троечнікі і двоечнікі, насмешкі гэтыя шматкроць павялічвала. Заступіцца за сябе, праз кволасць сваю ад хатняга жыцця і адпаведнае, хатняе ж, выхаванне, я не мог.

Я й пісаць, мабыць, пачаў праз гэтую сваю адзіноту — у пятым класе, зарана ўпадабаўшы фаталісцкія настроі — дарэчы, распаўсюджаныя асабліва ў хрысціянстве і іудаізме.

У сёмым класе я ўжо зачытваўся «Мобі Дзікам» і «Выбранными местами из переписки с друзьями» /дзе толькі выкапаў?/ — чытанка для падлетка дужа асаблівая, прынамсі для тагачаснага.

Дарэчы, я прачытаў тады ў адным навукова-фантастычным рамане, што людзі будучыні будуць «яйкагаловыя», і не ўзрадаваўся прадбачлівасці пісьменніка, а палічыў яго найвялікшым дурнем. Да будучыні было яшчэ вельмі далёка, зрэшты, як і цяпер, у чым вы можаце лёгка пераканацца, аглядаючы чэрапы.

Але не буду апісваць усіх сваіх пакут, якія зазнаваў класа аж да сёмага, і з дзяўчынкамі ў тым ліку, да якіх даволі рана стаў неабыякавы, — тут ужо нарэшце крыху сумна стала згадваць. Дый дзеля чаго тое варушыць? Я абазначыў — і гэтага дастаткова.

Загавару пра брата па няшчасці.

Гера пайшоў іншым шляхам.

Ніхто не вучыўся горш за Геру, нават Эля Малевіч, вечна абарваны, смаркаты і заклапочаны тым, дзе пад'есці, ніхто не меў столькі дрэнных адзнак па паводзінах і нікога так не лупілі бацькі, то замыкаючы дома, то з яго выганяючы, страціўшы ўсялякія на сына надзеі, — вынік быў адзін: Гера Залман быў апошні па ўсіх прадметах, за вылікам фізкультуры, самага майго ненавіснага ўрока.

Мяне лупілі ўсе — і ўсіх лупіў Залман.

Вянцом ягоных благіх паводзін стала фантастычнае здарэнне ў пятым класе. Пасля праваслаўнага Вялікадня ў школу паведамілі з міліцыі, што на святы дзень Геру, п'янага ўшчэнт, падабралі ў лужыне каля кафэ «Белочка», і ў руцэ ён сціскаў фарбаванае яйка. Я й цяпер не бяруся рабіць якіясьці каментарыі да гэтай тужлівай неверагоднасці і горка іранізаваць з нагоды адсутнасці ў Геравым доме фарбаваных яек.

Тады ў школе ніхто й не смяяўся з Геры з-за гэтага яйка, адно шапталіся за спінаю. З ім жа і з бацькамі ягонымі ўзяліся праводзіць атэістычнае выхаванне — школа была зганенай на ўвесь раён. У нас нават ва ўсіх класах гадзіну такую правялі — багаборскую, мала таго, адмянілі неяк па ўсёй школе заняткі і ўсім велізарным гуртам пагналі ў кінатэатр «Ударник» на фільм «Чудотворная».

Па асацыяцыі з Геравым яйкам не магу не згадаць яшчэ аднаго бедака, Сёму Сыркіна. Сёмавай бядою была ягоная таўшчызна і няўклюднасць. На пачатку кожнага навучальнага года яго да слёз дапякалі тым, што ўсім класам раўлі на выбарах фізорга: «Сёму Сыркіна! Сыркіна — фізоргам!» Сёма й вучыўся дрэнна, двойчы заставаўся на другі год — мабыць, праз тое, што смяяліся з яго, бо пасля школы ён здолеў закончыць політэхнічны, а потым увогуле, як я чуў, вельмі няблага ўладкаваўся ў Амерыцы.

Вельмі ўжо не шанцавала маім аднакласнікам-габрэям у пытаннях рэлігіі і атэізму. У дзевятым класе Сёма папаўся каля помніка Дзяржынскаму, ля кафэ «Весна», дзе багата тады збіралася па выхадных старых габрэяў, на тым, што прадаваў з-пад крыса на габрэйскі Вялікдзень мацу — як

(Праця́г на стар. 10-11)

* *Алія — выхадцы з СССР — частка насельніцтва Ізраіля.*

## НЕ ПАЕДЗЕ АНАТОЛЬ...

**Ці то з іроніяй, ці то са смуткам, ці то з добраю ўсмешкай пяе Анатоль Ярмоленка пра тое, як з'язджаюць з роднае Беларусі спевакі, застаючыся на чужыне. І з «аўтабіяграфічнага» прыпеву высноўваецца: калі й ён наважыцца паехаць, то ўсё роўна вернецца. На сняданак... Не адно жартоўныя — колькі яшчэ лірычных ды сур'ёзных, як раней казалі, «грамадзянскага гучання» песень у рэпертуары Анатоля Ярмоленкі ды ягоных «Сяброў», да нядаўняга часу — гомельскага ансамбля. Цяпер «Сябры» — гэта студыя ў Мінску. Новыя творчыя магчымасці, новае дыханне... Па выніках конкурсу на лепшую песню года, падведзеных студыяй музычных праграм Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, у лідэры выйшла песня «У бацькоўскім кутку» /І. Лучанок, вершы Н. Гілевіча/, выкананая «Сябрамі» ды іх салістамі — юнай Алесяй і Дзмітрыем Смольскім. А мастацкі кіраўнік ды саліст Анатоль Ярмоленка таксама напрыканцы года ганараваны званнем народнага артыста Беларусі.**

## ТАМУ АДШУКВАЕМ І ДЗІВІМСЯ...



*Алег ЧУБАКОЎ. Партрэт Марка Роткі.*



*Фантазіі Марка Роткі.*

**У Дзяржаўным мастацкім музеі адбылася вечарына, прысвечаная 90-годдзю выдатнага мастака-авангардыста, выхадца з Беларусі Маркуса Роткавіча /Дзвінск, 1903 — Нью-Йорк, 1970/, вядомага свету пад імем Марка Роткі. Кола ўдзельнікаў было па-сяброўску цесным. Некалькі паведамленняў-развожанняў, слайды ды трохі пытанняў — спроба прычыніць творчасць далёкага замежніка да беларускай культуры. Цешыла, праўда, тое, што правядзенне такіх вечарын становіцца традыцыяй для музея — адкрыццё для беларускага мастацтва невядомых «імёнаў», у дадзеным выпадку славутага ў свеце амерыканца. Але гэта не гвалтоўнае ўвядзенне творцы ў культуру ўжо чужога яму народа, ды і няма ў гэтым патрэбы. Замкнёнае кола «братніх культур» распалася і, нарэшце, мы, захлынаючыся недаступнай нам раней інфармацыяй, пачынаем адбіраць лепшае, тое, што паўздзейнічала на развіццё сусветнага мастацкага працэсу. Гэта можна сказаць і пра творчасць Марка Роткі, і нам варта ўсведамляць гэта і ганарыцца, што ён нарадзіўся на Беларусі.**

**Таму і адбылася ў Мінску канферэнцыя, таму адшукваем мы адбіткі славянскай, беларускай ментальнасці ў яго творчасці, дзівімся гарманічнасці і каларыту яго палотнаў, падобных па строю да беларускіх дываноў.**

# БЫТ І БЫТНАСЦЬ ЛІТАРАТУРЫ

*(Пачатак на стар. 5)*

«вышэйшую», «бесстароннюю» нібыта навуковасць. Стылізацыя, стаўшая традыцыйнай... Тут мне ўзгадваюцца мінулагоднія развагі Валянціна Акудовіча ў «ЛіМе» /эсэ «Літаратура ў Краіне Сакрэту», 1.01.1993 г./ аб уплыве к а н т э к с т у на літаратурны працэс. Пазней В. Акудовіч прыйшоў да больш глыбокага вызначэння «хваробы» нашай літаратуры — запанавання ў ёй пэўнага заганнага д ы с к у р с у як аднатыпнай, даўлеючай мысліцельнай парадыгмы, ва ўладу якое працаўнік слова патрапляе незаўважна для самога сябе, нават «арганічна»... і дарэшты /гл. N 2 літаратурна-філасофскага сшытка «ЗНО» газеты «Культура», 21.06.1993 г., прадмова да «Зацемак» і вершаў Янкі Юхнаўца/. «Мова — гэта сапраўдны фашыст, бо сутнасць фашызму не ў тым, каб забараняць, а ў тым, каб прынукаць гаварыць нешта», — падводзіць рысу свайму дэканструктывісцкаму доследу В. Акудовіч, працытаваўшы тут выслоўе Ралана Барта з вядомай «Лекцыі».

Мы ж пазначаем **тое самае** тэрмінам «стылізацыя». Стылізацыя — як сістэма стылёвых /лексічных, сінтаксічных, граматычных/ прыёмаў дзеля надання крытычным тэкстам блізіру філасофскай глыбіні і «навуковасці». І, мне думаецца, іменна з-за гэткай, філасофскай схаластычнасці існуючая крытыка і не выклікае вялікіх сімпатый у літаратурнай «моладзі». Моладзь, што й казаць, дужа дападная да новых ведаў, да Захаду; ідэалістычна творчая «моладзь», як мне падаецца і бачыцца, і мае сваёй духоўнай радзімай не Бацькаўшчыну, а — Сусвет. Дзіўная карэляцыя: адсутнасць хатняга прытулку дома робіць творчага чалавека касмапалітам. З вышыні касмапалітычнай, як вядома, стражэй ацэньваецца месца пад нагамі і самі месцічы побач...

Але ў дадзеным выпадку гутарка ідзе не пра «тактоўнасць» ці «нетактоўнасць» паводзін у літаратуры; не той гэта ўзровень праблемы. Праблема знаходзіцца вышэй, у іншым вымярэнні, дзе мерка толькі адна і — метафізічная: ступень патрабавальнасці да сябе і да сваіх твораў. Можна бясконца апяваць любыя гаі і палі, можна бясконца-ўтрапёна пераказваць падцікаваныя жыццёвыя гісторыі — і рабіць, думаючы што дыхтоўную прозу... Але з пункту гледжання э с т э т ы к і, напэўна, сумніўна назваць такую /па фактуры/ прозу — мастацтвам. Што літаратурай — то так, пэўна. Але ж — ці мастацтвам? Кожная аповесць Быкава для мяне, напрыклад, — з'ява мастацкага кшталту, бо нават пры аднатыпнасці вобразных выяўленчых сродкаў заўсёдна лепіцца нешта духоўна-новае, тое, што дыхае таемнасцю і загадкавасцю быцця... Што заварожвае цябе /нават і не «шараговага», а пэўным чынам «падрыхтаванага» чытача/ — нейкай не да канца дадзенай магчымасцю спасціжэння, эзатэрычнай сімволікай, унутрана-мастацкім НЕЧЫМ. Безумоўна, не можа быць арыфметычна-дакладных крытэрыяў для вызначэння «мастацкасці», тут мы ўсе «будысты» — наша «захапленне» ў сабе-невытлумачальнае, а кожная спроба яго вытлумачыць — зліквідоўвае саму захопленасць... Гэтага, «мастацкасці», не ведацьме ні сам мастак, ні балазе чытач. Абое яны — ва ўладзе ўласных асацыятыўных імпрэсій. Але абое — і мастак, і чытач — адчуваюць і ўнутрана ведаюць тое мастацкае НЕШТА...

Гэткую, «метафізічную» незадаволенасць літаратурным працэсам, яе прадвесце, я пакрыёма знаходжу ў «Медытацыях наўзбоч «Шляху—360» /1981 г./ Алеся Разанава. У іх — развагі пра эзатэрычную прыроду вершаскладання, духоўную сутнасць верша, традыцыю і наватарства ў літаратуры... Усё гэта, як мне ўяўляецца, тады было надта незразумела і ненадзённа. Што ж — затое надзённа сёння, і мы выкарыстаем развагі А. Разанава для нашых нататак. А. Разанаў усяго толькі канстатаваў духоўнае абядненне літаратуры, запанаванне ў ёй формы над зместам, тэмы над «сэнсам», «умельства» над «гарэннем»... «Гавораць: літаратура пабагацела на яшчэ адзін раман пра сучаснасць, на яшчэ адну «дарожную» нізку вершаў, — піша Разанаў. — Але падобным чынам багацеюць толькі фікцыі і кучы друзу, у якія што ні дадасі — усё больш. І, магчыма, ёсць сэнс гаварыць, што ў пэўным часе літаратура **пабяднела** на яшчэ адзін раман пра сучаснасць, на яшчэ адну «дарожную» нізку вершаў»; «Гаворым пра сваю традыцыйнасць... Але каб быць дастаткова традыцыйнымі, неабходна стаць дастаткова творчымі...»; «Нашы занадта за-вершаваныя вершы...», і так далей /«Вобраз—81»/. Што гэта — прэтэнзіі да самога часу? Напэўна...

Наш пачцівы класік Янка Брыль выказваў прэтэнзіі да часу па-свойму, у «Сваіх старонках»; нядаўна мы пазнаёміліся з ладнай часткай раней не друкаванага — на старонках «Полымя» /N 10, 1993/. І што? Высвятляецца, і гэты, скрозь зямны, эпічнага складу мастак адчуваў настроі «апакаліпсічныя», зусім «патойбочныя»: «Быццам падбіванне вынікаў, **баланс перад закрыццём...**» /гэта — з нагоды «капітальных» выданняў пачатку 1980-х: фальклорнай серыі, энцыклапедый/; «На каго пакідаем цябе, бедная беларуская літаратура?! Што год, што месяц, то менш творчых і **маральных** аўтарытэтаў. І як грыбы-паганкі растуць маладыя, хітранькія, цынічныя графаманы, набываючы сілу і ўплыў на лёс літаратуры /нагадваю, гэта гаворыцца на пачатку 80-х. — **Ю. З.**/. А лепшае, добрае, сапраўднае — не так відаць, як яны...»; «Што з намі будзе?..» /«з намі» — з пісьменнікамі беларускімі, з літаратурай/; нарэшце — «Як гэта цяжка — быць беларускім пісьменнікам, у нашай мелкай, бесхрыбетнай правінцыі, у блакадзе «моўнага бар'ера», без роднага дома, які ёсць у літоўцаў, армян, эстонцаў... У іх жа няма майго, нашага адчування: як пад нагамі абсоўваецца бераг, як звужаецца кола чытачоў, як мова наша адыходзіць!..» Пратэст у стол. Што ж папракаць «просты народ», што ён быў такі «несазнацельны», што не пратэставаў, не пратэстуе супраць г э т а к а г а свайго стану, прымірыўся з ім?.. Неаднаразова выказвалася думка, што «сумленне» нашай літаратуры, а, значыць, і сумленне народа, было выкасавана дарэшты ў 30-я гады, праз хвалі рэпрэсій /з менскіх «маладнякоўцаў» ад рэпрэсій захаваўся адзін Пятрусь Броўка/. Значыць, далей рабілі літаратуру «не самыя» лепшыя? Можа, у гісторыі і не прынята выкарыстоўваць умоўны лад, але, напэўна, у літаратуры павінен быць **толькі** ўмоўны...

Нарэшце, асэнсаваць уласны фатум у цяперашнім «шматковым» часе бярэцца і сучасная маладая літаратура, што ані не хоча «закрывацца». Асэнсоўваць — асэнсаваннем няздзейсненых магчымасцяў літаратурнага папярэдніцтва, стрымліваючых рост літаратуры неадпаведнасцяў.

Бадай, новая аповесць Андрэя Федарэнкі «Такое кароткае лета /Запіскі пісьменніка/» — урывак надрукаваны ў «ЛіМе» 19.11.1993 г. — і ёсць адной з выключных спроб **самой прозы** асэнсаваць /робячы, між іншым, работу крытыкі/ свой стан і свой рахунак з часам. У «ЛіМ» аўтар даў, мне падалося, сама «сутнасную» частку аповесці і з яе можна будаваць развагі. Выкарыстаўшы форму пісьменніцкага дзённіка, малады аўтар — за «сапраўднага», 60-гадовага пісьменніка — рэфлексуе над прынцыпам пабудовы літаратуры, над тым, чым літаратура дэтэрмінуецца. «Верылі ўсе, верылі, што будуюць не на ільдзінах, а на цупкім вечным грунце... Самым «объективно» якраз і ёсць той грамадскі лад, які нясе ў сабе і хімізацыю, і НТР, і асваенне космасу... Калі ў гэтае верылі лепшыя з лепшых, дык што казаць пра «масы»? Вось гэтая «аб'ектыўнасць» і звязвала, як раствор цагліны, эпізоды ваенныя, калгасныя, партыйныя, гістарычныя, любоўныя ў апавяданнях, аповесцях, раманах... Не перастаю здзіўляцца, чытаючы цяперашнія выступленні пісьменнікаў і цяперашнюю крытыку. Аказваецца, усе заўсёды разумелі, што тая вера была лухта, творы таго часу трэба лічыць як бы няпоўнымі, несур'ёзнымі, лепш пра іх увогуле не дужа згадваць, а калі згадваць, дык ацэньваць «ад зваротнага»... Можа быць усё, і тая вера сапраўды магла быць несур'ёзная. Але якая тады сур'ёзная, поўная?.. **Уся справа ў тым, што змяніўся пануючы лад. Змянілася «асноўная лінія». Натуральна, павінны змяніцца... формы літаратуры...»** /падкрэслена мной. — **Ю. З.**/. Во як — анталагічна — разважае сучасны малады пісьменнік. Пісьменнік, які **хоча напісаць сапраўднае...** Тут вартае ўвагі ўжо хоць бы само акрэсленне залежнасці літаратуры ад акаляючай кан'юнктуры — бо гэта с а м а р э ф л е к с і я літаратуры над сваім станам. А самарэфлексія — сродак пераадолення знешняга; таго, што даўлее над свядомасцю і пачуццямі. Прынамсі, для сябе празаік Андрэй Федарэнка нешта асэнсаваў, у нечым разабраўся...

Але ці ўтрымаецца маладая, сучасная проза між ідэалам паслугоўвання Красе, Інша-свету і — прорвай быцця, стратай творчай, эстэтычнай пераемнасці /«когда запутаны начала и перепутаны концы»/? Крытык і выдавец Сяргей Дубавец /а яго адыход з шчыльна-крытычнага фронту ў абсягі выдавецкай справы я лічу непапраўнай стратай для беларускай крытыкі/, падаецца, пра анталогію літаратуры мысліць амаль гэтак жа, як і памянёны празаік Андрэй Федарэнка. «... Пераконваешся, што сапраўдныя творы нараджаюцца толькі ў стабільным часе. А самы стабільны, квазістабільны — таталітарызм. Час формы. Час жанру. Час светапогляду. А сёння — час зместу, час... міжжанру, час свету... Літаратура ўсяго толькі перапампоўвае свой час. І калі гэты час незавершаны, неакрэслены, няспелы — які б ні быў дасканалы майстар-літаратар, з благое сыравіны ён не вырабіць прыдатнага прадукту». Час негатовай прадукцыі, прадукты няспелага часу... Жалезная карэляцыя: «Паколькі цяперашні час незавершаны, негатовы, няспелы, дык і літаратурныя творы выходзяць гэткія самыя» /«Наша Ніва», NN 15—16, 1993, «Дзённік прыватнага чалавека» — таксама «дзённік».../. Праўда, віленскі крытык бачыць і супакойнае «рацыё» ў гэткай часавай незавершанасці: «Няма кантэксту, у якім набывалі б значэнне... /у «ЛіМе», 5.II.1993 г., ён выславіўся трохі інакш: «няма нясучай канструкцыі, усё скранулася і паплыло...»/. Гэта сапраўды надзвычай цяперашні час. Усё, што ён нараджае, — як бы аднаразовае. Заўтра яно ўжо не прыдасца...»

Гэта, на думку крытыка, на сёння — рацыё. Але ці пры́ме рацыё — «душа паэта»?

«Свой праект»?.. Свой «праект» можа быць хіба ў асветніцтве, педагогіцы, прадпрымальніцтве, але — каб у паэзіі, прозе? Які тут можа быць наўмысна вызначаны «праект»? Мне вобраз літаратурнага працэсу ўяўляецца такой жа сакраментальнай таямніцай, як і, не раўнуючы, зачацце новага жыцця. Гэта магічная містэрыя з двума пачаткамі, двума цэнтрамі духу — духу ўчарашняга і духу сённяшняга. Цэнтры сходзяцца-знітоўваюцца і ўтвараюць новы цэнтр-Свет — Новую Літаратуру... Хоць тут я, магчыма, залішне збіваюся на саладжава-сімвалісцкі пафас... У процілегласць майму аптымізму адзіная вядомая мне літаратурная версія з а ч а т к а в ы х магчымасцей нашай літаратуры /прынамсі, я так яе «расчытаў»/, — не аптымістычная. У навеле «Гон» той жа С. Дубавец стварыў алегарычны вобраз дзіка, які прыйшоў на ферму, да суродзічак... Калі ўлічыць, што навела пісалася прыблізна ў той жа час, калі пісаў у стол «Свае старонкі» Янка Брыль /1984/, то чым абумоўлены гэтакі сэнс алегорыі — робіцца зразумелым. «Нічога не атрымлівалася ў старога секача... Відаць, назаўсёды знік той салодкі сверб, што прыгнаў яго сюды. Гэта было незваротна, як пройдзены шлях... Ён ... прадчуваў смерць... Настаў момант, калі ўжо не бывае ратунку. Тады здраджвае самае святое, што жывіла цябе ад нараджэння... Навокал зрабілася і зусім чорна». Ваколь ны свет, людзі паставілі на дзіка /«жывое»/ пастку, і яно /жывое/ бязвыхадна ў яе трапляе...

Вяртаецца і гіне ў лесе дзік, што не здолеў зачаць новае /і «не мог», і «не далі»/; самотнеюць і маюць вырадзіцца /па версіі сюжэта/ свінні на ферме... Даруем аўтару гэтакі «нясмачны» вобраз. Свінні... Але дзеля справядлівасці трэба зважыць на тое, што алегорыя — таксама /і, можа, найбольш/ — мастацкі, а не наўмысна-публіцыстычны прыём. Значыць, яна аб нечым гаворыць аб'ектыўна, нешта хоча растлумачыць бессвядома, самім фактам свайго з'яўлення...

Мне не хацелася б, каб спраўдзіліся ўсе гэтыя «прадчуванні канца», каб у нашым асяродку запанавала «залатое вар'яцтва» з нагоды мінулага. Постаці вершаваальніка ды складальніка /«сачыніцеля»/, падаецца, не надта змянілі свае адвечнае, адзінокае, самотнае сутнасці... Як і кожнаму не аблашчанаму ў дзяцінстве дзіцяці, маладому /у літаратуры/ зараз хочацца хоць бы спагады «старэйшых»... Знікаць не трэба. Трэба дзяліцца «кватэрамі».

Музыка

***Уладзімір Неўдах — і новае, і ўжо досыць вядомае імя ў культуры сённяшняга музычнага адраджэння. Аспірант Акадэміі музыкі, ён працуе над дысертацыяй па тэме «Гісторыя арганнай культуры Беларусі», выкладае гісторыю беларускай музыкі, гісторыю, тэорыю і практыку выканаўчага мастацтва барока, тамсама прыняў пасля Э. Габрыэлян мастацкае кіраўніцтва ансамблем старадаўняй музыкі «Бахаўскі гурток». Служыць арганістам у касцёле св. Тройцы /св. Роха/, што на Залатой Горцы ў Мінску. Абраны чальцом Нямецкага таварыства сяброў арганаў.***


*У. НЕЎДАХ за арганам касцёла св. Роха.*
*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# НЯХАЙ АРГАНЫ БОЛЬШ НЕ ЖАЛЯЦЦА

«Арганы вядуць урачыстую гармонію — казаў бы, зашумела пушча ад ветру, загаварыў бор, гоніць вецер удалечыню ўсенька...» — так пісаў Казімір Сваяк, вядомы беларускі каталіцкі святар і паэт.

Кожны народ, вядома, уяўляе сабе гэты інструмент па-рознаму, але з аднолькава вялікай і шчырай любоўю да яго. Напрыклад, для немцаў — гэта жанчына, каралева ўсіх інструментаў /Die Orgel/, для ангельцаў — organ — мужчынскага роду, для італьянцаў як дзіцё /Organo/, а для нас, беларусаў, — як сям'я: арганы /старая форма/.

Тыя фотаздымкі з выявамі ацалелых арганаў у збережоных касцёлах на Беларусі, якія я дэманстраваў сваім калегам і сябрам, моцна ўражвалі іх, выклікаючы пачуццё шчырага здзіўлення: «Ці гэта сапраўды ёсць у н а с?»

Пошук адказу на гэтае пытанне, а дакладней: «Што я ш ч э засталося ў н а с?», паклікаў мяне ў дарогу. Шмат намаганняў давялося прыкласці, каб арганізаваць гэтую пілігрымку-экспедыцыю. Дзякуючы Пану Богу, яна ўсё ж адбылася, хаця і са спазненнем, і ў больш сціслыя тэрміны.

...Той другі жнівеньскі дзень, калі нашая невялічкая група з трох чалавек, нарэшце, выехала з Менска пасля доўгіх, здавалася, несканчоных клопатаў, — сустрэў нас доўгачаканым сонечным ззяннем, амаль бясхмарным небам. Адпаведна складзенаму маршруту, мы пачалі наведванне беларускіх каталіцкіх святыняў з Гародзеншчыны, з мястэчка Гудагаі. Далей, праехаўшы па Ашмянскім, Астравецкім і Смаргонскім раёнах, калі глядзець па мапе, мы рухаліся «над Нёманам» да самое Гародні і вярталіся ўжо ў бок Менска «пад Нёманам», каб папоўніць усе нашыя запасы.

Найцудоўнейшыя сустрэчы з нашай жывой духоўнай культурай, якая адчувальна перажывае сваё Адраджэнне, надавалі нам шмат нечаканага імпэту і сілы. І гэты некалькідзённы вымушаны перапынак уяўляўся бясконцым, пасля такой вельмі натхнёнай і інтэнсіўнай працы.

Другі этап экспедыцыі ахопліваў значна большую тэрыторыю — Брэсцкую, Мінскую і Віцебскую вобласці, — але з меншай колькасцю пунктаў наведвання. У некалькі іншым складзе /змяніўся кіроўца і машына/ мы пачалі сваю працу ў чароўнай Пінскай Катэдры і скончылі ў слаўным Полацку.

Хочацца адзначыць, што жыхары ўсіх тых мясцін, дзе мы пабывалі, ганарацца сваімі святынямі і дбаюць пра іх, радуючыся, што перажылі, нарэшце, сумнае бальшавіцкае бесчасоўе. Так, нам давялося бачыць адзінкі і такіх касцёлаў, якія ніколі не зачыняліся, ні пры якіх уладах; таксама, якія ўжо не адзін раз раней аднаўлялі сваю дзейнасць і якія зноў адбудоўваюцца рукамі парафіянаў, вяртаючы свой першасны выгляд ад пачварнага савецкага «гаспадарчага выкарыстоўвання». Але значна больш касцёлаў — яшчэ ў руінах, нават асабліва незаўважных над зямлёй...

Ды штосьці ў нашым жыцці павінна было б заставацца недатыкальным. Абаронім жа сваімі рукамі хоць тое, што я ш ч э ў н а с засталося.

Найбагацейшая культурна-гістарычная спадчына беларускага народа зараз, як ніколі, ва ўмовах узноўленай дзяржаўнай незалежнасці, патрабуе да сябе пільнай увагі, падрабязнага вывучэння, а б' е к т ы ў н а й ацэнкі.

Шматлікія мастацкія каштоўнасці, дакументы, рассеяныя па музеях і архівах розных краін свету, яшчэ большыя бязвыплатна страчаныя... Цэлыя галіны беларускай культуры да гэтай пары застаюцца недастаткова даследаванымі ці нявывучанымі наогул. Іхняе вывучэнне ў пэўныя перыяды гісторыі нашай Бацькаўшчыны было непажаданым, а належныя матэрыялы часта недасягальнымі. Таму што самыя аб'екты вывучэння, ці праўдзівая ацэнка нейкіх культурных з'яў проста не адпавядалі афіцыйнаму пункту гледжання. Гэта датычыцца і беларускай музычнай культуры, а менавіта — важнай яе часткі — духоўнай, каталіцкай. Менавіта гэтая галіна музычнай культуры адкрывае моцныя кантакты беларускай культуры з заходнееўрапейскай і дазваляе асэнсаваць нашую нацыянальную культуру як частку агульнаеўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу. Дзякуючы каталіцтву, на Беларусі стала магчымай прафесійная агульная і музычная адукацыя еўрапейскага тыпу і ўзроўню; а каталіцкі касцёл доўгі час заставаўся, як вядома, адзіным цэнтрам музычнага прафесіяналізму.

Ва ўлонні каталіцкага касцёла і на Беларусі пачала развівацца а р г а н н а я к у л ь т у р а.

Выбраная мной характарыстыка гэтай з'явы дазваляе мнагамерна і ў той жа час арганічна і мэтанакіравана аналізаваць даследуемы аб'ект, разглядаючы яго як шматгранную з'яву ў кантэксце агульнаеўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу.

Думаю, тэрмін «арганная культура» натуральна яднае больш шырокае кола з'яў, чым ужываныя «арганнае мастацтва», «арганная творчасць», «арганная школа».

Арганная культура спалучае ў сабе тры асноўныя сферы «пазнання» аргана: арганнае будаўніцтва, выканаўства і кампазітарская творчасць.

Арганнае будаўніцтва складаецца нібыта з дзвюх галін. Першая датычыцца механікі інструмента і ягоных уласна музычных якасцей; другая — знешняга афармлення і ўпрыгожвання інструментаў у адпаведнасці з эстэтычнымі патрабаваннямі пануючай мастацкай эпохі.

Базай беларускай арганнай культуры былі ў першую чаргу каталіцкія касцёлы, якія пачалі ўзводзіцца на нашай зямлі з XIII ст. Першы касцёл быў пабудаваны вялікім князем Міндоўгам у 1253 годзе ў Навагародку, а ўжо на пачатку XIX ст. на тэрыторыі Беларусі налічвалася каля 1380 касцёлаў.

У канцы XVI ст. на Беларусі ўзнікла уніяцкая царква, якая спалучыла ў сабе рысы дзвюх вялікіх культур — рымскай і візантыйскай і садзейнічала магутнаму росквіту ўсіх галін нацыянальнага мастацтва. Але пад уплывам гістарычных падзей толькі да красавіка 1837 года ў беларускіх уніяцкіх цэрквах было знішчана 117 арганаў. Такія сумныя вынікі прынесла русіфікатарская палітыка расейскага царызму.

Арганы будаваліся не толькі ў грандыёзных мураваных храмах буйных гарадоў, але і ў невялічкіх касцёлах і уніяцкіх цэрквах, нават драўляных.

Арганнае будаўніцтва на Беларусі развівалася на еўрапейскім узроўні і адпавядала асноўным патрабаванням у галіне механікі, а таксама стылёвым традыцыям знешняга афармлення. Яшчэ ў 30-х гадах нашага стагоддзя віленскі мастацтвазнаўца ксёндз М. Маралоўскі адзначыў падабенства фасадаў некаторых беларускіх арганаў XVIII ст. да фламандскіх і паўночнафранцузскіх.

У будаўніцтве і рэпарацыі арганаў на Беларусі бралі ўдзел і замежныя майстры, сярод іх — прадстаўнікі вядомага ў Еўропе сямейства арганных майстроў Каспарыні.

Другая сфера арганнай культуры — выканаўства — мае таксама дзве галіны. Адна з іх — ужыванне арганаў у набажэнстве ў якасці інструмента, які нясе на сабе галоўную функцыю суправаджэння разнастайнага роду культавых каталіцкіх /пратэстанцкіх, уніяцкіх/ спеваў, а таксама ў якасці сольнага інструмента ў пэўных месцах імшы. Другая галіна выкарыстання арганаў — па-за рэлігійнай службай.

І трэцяя важная сфера арганнай культуры — кампазітарская творчасць, якая сведчыць пра пэўны высокі ўзровень развіцця арганнай культуры. Гісторыя пакінула нам імёны не толькі арганных майстроў, вядомых у свой час, але і арганістаў. Напрыклад, гэта Себасцян з Менска, Мікалай Мазовіч /XVII ст./, Адам Масяжкоўскі — адзін з лепшых беларускіх арганістаў XVII ст., які працаваў пры двары караля Жыгімонта III, кампазітар і арганіст Шымкевіч, які служыў у Нясвіжы /1-я палова XVIII ст./, Язэп Фок са Слоніма /XVIII ст./, Станіслаў Манюшка /XIX ст./ і інш. /Пра гэтае і іншае можна пачытаць у новым нумары «Хрысціянскай Думкі», які выходзіць у свет/.

Дзякуючы каталіцтву і, выходзіць, моцным кантактам з Заходняй Еўропай, арганная культура на Беларусі развівалася ў кантэксце заходнееўрапейскай культуры, пра што сведчаць не толькі самі інструменты, але ўжо і вядомыя прыклады беларусккй арганнай музыкі, якія мне пашанцавала знайсці. /Дарэчы, у хуткім часе мяркуецца выдаць гэтыя знаходкі ў зборніку пад агульнай назвай «Беларуская арганная кніжачка»/.

У першай палове XIX ст. новых касцёлаў на тэрыторыі Беларусі будавалася значна менш, што цалкам залежала ад гісторыка-палітычных умоў. Таму ўвага арганных майстроў была накіраваная на рэпарацыю, аднаўленне старадаўніх інструментаў; пабудова новых інструментаў рамантычнага тыпу пачалася ў другой палове XIX ст., бо адбылося ажыўленне будаўніцтва каталіцкіх храмаў, асабліва ў заходніх частках Беларусі /другая палова XIX ст. — пачатак XX ст./.

Многія дакументы сведчаць, што арганісты, якія працавалі ў беларускіх касцёлах, мелі добрую прафесійную адукацыю. З самых вядомых, акрамя Манюшкі, у Гародні /1853—58 гг./ працаваў Іяхім Глінскі, які быў таксама добрым спеваком і кампазітарам. У 1880-х гадах ён выкладаў ігру на аргане ў Віленскай духоўнай семінарыі. У Бялынічах прафесар Грун з Прагі таксама навучаў ігры на аргане ў музычнай школе Гадлеўскага. Патрэба ў высокакваліфікаваных музыкантах, якімі абавязкова павінны былі быць касцельныя арганісты, была заўсёды. Таму ў 1872 г. пры Менскім касцёле св. Тройцы на Залатой Горцы было заснаванае вучылішча арганістаў. Гэтая ўстанова існавала 26 гадоў і падрыхтавала 32 музыкантаў.

Толькі ў 1905 г. з'явіўся ўказ аб умацаванні пачаткаў верапамяркоўнасці. За 1905—09 гады ў каталіцтва вярнулася 230 тыс. уніятаў, каля 2 мільёнаў католікаў. На 1912 г. у Магілёўскай архідыяцэзіі захавалася ўсяго 287 касцёлаў. Неацэнны ўрон быў прычынены каталіцкай культуры ў савецкі перыяд. Алтары, арганы, іншае касцельнае начынне адразу ці паступова проста знікалі з, так бы мовіць, «функцыянальна-пераарыентаваных» камуністамі касцёлаў.

Сёння ўжо вядома, адкуль зняты арган, які цяпер, натуральна, не функцыянуе ў новых умовах, а толькі «ўпрыгожвае» сцэну Мінскай дзіцячай музычнай школы N 2. Вядома, адкуль і той арган, што згніў у сутарэннях Маладзечанскай музычнай вучэльні. Вядомыя імёны тых, хто ўласнаручна знішчыў арган у касцёле св. Станіслава ў Магілёве. Вядома, бо яшчэ жывуць людзі, якія назіралі ўсё гэтае са слязьмі на вачах...

Засталося ў ацалелых касцёлах на Беларусі не надта шмат арганаў, нават далёка не ў кожным каталіцкім храме, — рэшткі былой велічы. Нашая экспедыцыя ў выніку прынесла багаты і каштоўны матэрыял, які цяпер паступова апрацоўваецца. Між іншым, было зроблена апісанне кожнага інструмента, паводле апошніх навуковых патрабаванняў /ACTA ORGANOLOGICA N 22, 1991/. А выдатным кінааператарам і фотамастаком Юрыем Плюшчавым на высокім узроўні былі зроблены якасныя каляровыя і чорна-белыя здымкі арганных праспектаў і цікавых дэталей інструментаў, інтэр'ераў і экстэр'ераў касцёлаў.

Ужо быў сабраны і часткова выкарыстаны ў маёй дыпломнай рабоце «З гісторыі арганнай культуры на Беларусі» /Мн., 1992, Машынапіс/ і некаторых артыкулах разнастайны гісторыка-факталагічны, музычны матэрыял /дзе падаюцца ўсе спасылкі на крыніцы/. Нават гэты наяўны матэрыял дазваляе даволі шырока асэнсаваць і арганную культуру на Беларусі як цэласную з'яву, а таксама кожную з трох складаючых яе сфер, аб'яднаць дадзеныя гісторыі і сучаснасці. Хочацца спадзявацца, што адным з вынікаў гэтай даследчай працы будзе кніга. Але зразумела, што пошукавая праца не спыняецца, і я спадзяюся на цікавыя новыя знаходкі.







*Такімі ўбачыў беларускія арганы фатограф Ю. ПЛЮШЧАЎ*

З вялікай павагай выказваю словы ўдзячнасці маім калегам па экспедыцыі — фатографу сп. Ю. Плюшчаву, кіроўцам сп. Д. Міхлееву і В. Цыганову; сп. Г. Якаўлеву за тэхнічную дапамогу і, ўрэшце, фірме «Дайнова», асабіста яе прэзідэнту А. Палюховічу за аказаную фінансавую дапамогу.

«Арганы жаляцца... Тоны арганаў слёзы наводзяць на зрэнкі мае. Льюцца жальбы, як тыя воды вясновай парой...», — так пяшчотна і пранікнёна пісаў Казімір Сваяк. Так, балюча казаць, але цяпер нашы арганы жаляцца яшчэ пра свой стан, пра разбітыя званы, пра зруйнаваныя касцёлы...

Няхай бы арганы больш не жаліліся...

**Уладзімір НЕЎДАХ**

Сярод кніг

***У выдавецкай прадмове да кніжкі падкрэслена, што «з'яўленне яе ў другі час было б проста немагчымым. Кнігу не толькі б «прабуксавала» наша цэнзура, але наўрад ці якое з выдавецтваў адважылася б прыняць такі матэрыял да выдання». Гэта сапраўды так, бо польскі вучоны /асновай кнігі, выпушчанай чатыры гады назад у Польшчы, стала доктарская манаграфія аўтара/, доказна абапіраючыся на шматлікія архіўныя дакументы, істотна пахіснуў той усталяваны «канцэптуальны» погляд на праблему, які доўгі час усеўладна і непадзельна панаваў у беларускай гістарыяграфіі. Паводле гэтай канцэпцыі, як слушна адзначыў у кароткай рэцэнзіі на працу Ю. Туронка літаратуразнавец С. Вераціла /«Звязда», 7.09.1993 г./, беларускі народ у перыяд акупацыі «з пункту гледжання афіцыйнай, і раней толькі адзінаіснуючай гістарыяграфіі быў цалкам... на баку «неперсаможнага Чырвонага войска», аднадушна ненавідзеў нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пагалоўна дзень і ноч змагаўся з акупантамі». А Ю. Туронак «першым спрабуе нам паказаць іншыя бакі вайны і трохі па-іншаму зірнуць на тых, хто звязваў надзеі на незалежнасць /Беларусі. — М.В./ з Германіяй». З высновай рэцэнзента нельга не пагадзіцца.***

# НЕВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ «НЕВЯДОМАЙ ВАЙНЫ»

Але ж галоўнае значэнне згаданай кніжкі нам найперш бачыцца ў куды больш шырокім сэнсе. Ужо нават пры першым знаёмстве з грунтоўнай працай польскага даследчыка міжвольна нарадзілася думка: як недаравальна мала мы дагэтуль ведалі аб нядаўніх падзеях мінулай вайны — такіх, здавалася, ужо дасканала вывучаных, аб якіх напісана гэтулькі! Пазней гэта думка перарасла ў цвёрдае перакананне: Другая сусветная вайна для беларусаў яшчэ застаецца невядомай вайной! Як і перыяд нямецкай акупацыі Беларусі таксама — у вывучэнні гэтых трагічных старонак пакуль зроблены толькі першыя крокі...

Вельмі характэрна, што ў дадзеным выпадку першапраходцам у айчынным друку выступае замежны вучоны. Прадбачым, што аўтару гэтых радкоў могуць тут запярэчыць, сцвярджаючы, што ў нас, маўляў, акупацыйны перыяд ужо як след, да апошніх драбніц вывучаны. І ў якасці доказаў прывесці доўгі спіс манаграфій, артыкулаў, успамінаў і «цагліны» тамоў апублікаваных дакументаў. Але ў такім разе нашы апаненты наўмысна пакідаюць па-за ўвагаю наступнае: усе без выключэння ранейшыя навуковыя і навукова-папулярныя публікацыі ў БССР, прысвечаныя апошняй вайне на Беларусі, знаходзіліся ў рэчышчы, строга абмежаваным дагматычнай і ідэалагічнай канцэпцыяй, распрацаванай у ЦК КПБ. Гэтая канцэпцыя артадаксальна і аднабакова асвятляла тагачасныя падзеі: адны факты знарок глуха замоўчваліся, іншым фактам — няхай другасным, адзінкавым і нават выпадковым — штучна надавалася вызначальная роля. Але ж такі, з дазволу сказаць, падыход можна адназначна кваліфікаваць адным словам: фальсіфікацыя! Якраз таму беларускія падзеі 1939—1945 гг., на нашу думку, усё яшчэ застаюцца «невядомай вайной». Спроба ж Ю. Туронка праўдзіва, па-новаму прачытаць старонкі гэтай вайны заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

Праца польскага вучонага складаецца з уступу, чатырох раздзелаў, заключэння, падрабязнай навуковай бібліяграфіі /адных спасылак на дакументальныя крыніцы тут налічваецца каля 800/ і каментарыяў. Ужо ва ўступе чытач сутыкаецца з прынцыпова новым падыходам даследчыка да ацэнкі палітычнага становішча, якое склалася на Беларусі ў акупацыйны перыяд. Так, аўтар лічыць, што ў той час палітычная сітуацыя знаходзілася пад уплывам трох гістарычных працэсаў. Гэта, па-першае, барацьба прыхільнікаў савецкай улады пад кіраўніцтвам кампартыі супраць захопнікаў /галоўная дзеючая сіла — партызанскі рух/. Другім важным фактарам стала «імкненне разнастайных беларускіх нацыянальных груп да стварэння самастойнай беларускай дзяржавы», якія выкарысталі акупацыйныя ўмовы «дзеля нацыянальнага абуджэння грамадства, арганізацыі беларускіх узброеных сіл і прадстаўнічых органаў». З гэтай плынню, як адзначае аўтар, вяло барацьбу не толькі савецкае падполле, а да канца 1943 года — яшчэ і эсэсаўска-паліцэйскі апарат. Трэцім добра бачным працэсам была барацьба польскага падполля пад кіраўніцтвам эміграцыйнага ўрада генерала Сікорскага да адваёву польскай дзяржавы ў даваенных межах. Яна вялася на абшарах, «на якія аднолькава прэтэндаваў як польскі, так і савецкі ўрад».

Складаны палітычны спектр выявіўся ў тагачаснай Беларусі. Таму ўзважанай і абгрунтаванай з'яўляецца выснова Ю. Туронка: агульная сітуацыя на Беларусі тады вельмі нагадвала грамадзянскую вайну і не ўкладвалася ў рамкі класічнага ўзору «акупанты — акупаваныя». Аўтар падкрэслівае важную рысу, уласцівую акупацыйнаму рэжыму на Беларусі /на што, дарэчы, амаль не звярталі ўвагі савецкія даследчыкі/: «Ва Усходняй і Заходняй Беларусі існавалі адрозненні ў сістэмах акупацыйнага рэжыму: у першай панавала вайсковае праўленне, а ў другой — цывільнае». Скажам, забягаючы крыху наперад, што ў другім — чацвёртым раздзелах манаграфіі Ю. Туронак пераканаўча давёў: на тэрыторыі Беларусі, якая знаходзілася пад цывільным акупацыйным праўленнем, нямецкай адміністрацыяй былі паспяхова ажыццёўлены захады, скіраваныя на развіццё нацыянальнай беларускай культуры. Гэта, аднак, як слушна адзначае аўтар, не мяняла агульнага, бясспрэчна злачыннага характару акупацыйнай палітыкі: немцы перш за ўсё імкнуліся любымі сродкамі паставіць мясцовы «людскі і эканамічны патэнцыял на службу Трэццяму Рэйху.... на Беларусі эксплуатацыя часта пераходзіла ў адкрыты грабеж».

Кніга пачынаецца раздзелам: «Германія і Беларусь у 1915 — 1941 гадах». Гэта кароткі /30 старонак/ нарыс германа-беларускіх узаемных стасункаў, якія мелі месца працягам значнага гістарычнага перыяду — ад падзей Першай сусветнай вайны, калі немцы ўпершыню апынуліся на Беларусі ў якасці акупантаў, да нападу Германіі на СССР. У другім раздзеле манаграфіі «З надзеяй на хуткую перамогу /чэрвень — снежань 1941 года/» падрабязна асветлена савецкая эвакуацыя з Беларусі, усталяванне тут нямецкага вайсковага і акупацыйнага цывільнага праўленняў. Аўтар рашуча не пагаджаецца з савецкімі гісторыкамі, якія аднадушна малявалі варожае стаўленне беларускага народа да акупантаў, сцвярджаючы, што ў «савецкіх людзей не было іншых перакананняў, акрамя самаахвярнай адданасці сваёй сацыялістычнай Радзіме і справе Камуністычнай партыі»...

Спасылаючыся на тагачасныя сакрэтныя рапарты службы СД /яны звычайна не прыхарошвалі рэчаіснасці/, Ю. Туронак піша, у прыватнасці, што ў Заходняй Беларусі паводзіны тутэйшага насельніцтва ў адносінах да немцаў у цэлым пераходзілі ад «даволі прыязнай нейтральнасці» да «радасці з нагоды вызвалення ад савецкага ярма». Асабліва яскрава гэта назіралася ў сельскай мясцовасці, дзе «прыход немцаў беларускае сялянства адразу ж выкарыстала для роспуску ўсіх калгасаў і вяртання на сваю індывідуальную гаспадарку». Паводле нямецкіх крыніц аналагічная карціна назіралася і ва Усходняй Беларусі. Ці не ўпершыню са згаданага раздзела чытач даведаецца таксама, што беларусы — салдаты Чырвонай Арміі, якія трапілі да немцаў у палон, летам-восенню 1941 года загадам Вярхоўнага камандавання вермахта былі вызвалены з лагераў і адасланы дамоў...

Асаблівую ўвагу аўтар кнігі надае асвятленню дзейнасці нямецкай цывільнай адміністрацыі, якую з ліпеня 1941 года ўзначаліў генеральны камісар Вільгельм Кубэ — асоба далёка неадназначная і супярэчлівая. Блізкі паплечнік Гітлера і ўплывовы функцыянер нацыянал-сацыялістычнай партыі, які ў свой час аказаў шмат неацэнных паслуг Гітлеру на шляху да абсалютнай улады, Кубэ меў, як гэта абгрунтавана даводзіць Ю. Туронак, цвёрды ўласны погляд на сродкі і метады ажыццяўлення палітыкі рэйха. Так, яшчэ ў 1936 годзе ён выступіў супраць праследаванняў яўрэяў у Германіі, у выніку чаго пазбавіўся ўсіх сваіх дзяржаўных і партыйных пасад. Але /відаць, за былыя заслугі/ ён па-ранейшаму карыстаўся магутнай падтрымкай фюрэра, таму і не трапіў у канцлагер, а толькі на пяць гадоў адышоў ад вялікай палітыкі. Выразна партрэт Кубэ намаляваны аўтарам у трэцім раздзеле даследавання «Ад Масквы да Курска — беларускі калейдаскоп супярэчнасцей і канфліктаў /снежань 1941 — верасень 1943/». У выніку чытач упершыню мае магчымасць упэўніцца: гэты вышэйшы цывільны прадстаўнік Берліна на Беларусі, застаючыся шчырым прыхільнікам фашысцкай дактрыны, лічыў, што без шырокага супрацоўніцтва з мясцовым насельніцтвам нельга ўсталяваць тут «спакой і парадак». У гэтым сэнсе характэрны ліст Кубэ кіраўніку Рэйхскамісарыята Остлянд /куды адміністрацыйна ўваходзілі акупаваныя Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь/ ад 1 лістапада 1941 года, дзе, у прыватнасці, рэзка асуджалася жорсткая карная акцыя нямецкай паліцыі і літоўскага паліцэйскага батальёна супраць мірных жыхароў — яўрэяў і беларусаў — горада Слуцка. Кубэ прапанаваў нават аддаць пад суд афіцэраў, якія ўзначальвалі расправу над бязвінным насельніцтвам. «Такімі метадамі, — адзначаў ён, — нельга ўтрымаць на Беларусі спакой і парадак... Цывільнае кіраўніцтва на Беларусі прыкладае вялікія намаганні, каб... здабыць сімпатыі ў мясцовага насельніцтва. Але гэтыя стараніі не могуць суіснаваць і мірыцца з апісанымі вышэй метадамі».

Упамінаючы «вялікія намаганні», Кубэ меў на ўвазе ўласны курс на беларусізацыю краю, які, дарэчы, ён /часта незалежна ад Берліна/ ажыццяўляў тут і пасля, да сваёй гібелі: спрыянне развіццю беларускай культуры і беларускага школьніцтва, усебаковая падтрымка розных груповак беларускіх /пераважна — былых эміграцкіх/ дзеячаў, якія спадзяваліся на магчымасць стварэння беларускай дзяржавы з дапамогай Германіі, беларусізацыю царкоўнага жыцця, стварэнне «дзеля забеспячэння плённага ўдзелу беларусаў у кіраванні краем» Беларускай Народнай Самапомачы з яе прадстаўніцтвам на месцах і ўзброеных беларускіх фарміраванняў у складзе корпуса Беларускай самааховы /мэта апошняга — разам з паліцыяй змагацца з партызанамі/. Аўтар манаграфіі падкрэслівае, што такая палітыка Кубэ падмацоўвалася адпаведнымі эканамічнымі захадамі, скіраванымі на рост сімпатый мясцовага насельніцтва да нямецкіх улад. Так, яшчэ на пачатку 1942 года на Беларусі «ўсе калгасы былі распарцэляваны, а іх зямля і інвентар перайшлі ў сямейны ўжытак». Абавязковыя ж пастаўкі насельніцтва, як сцвярджае аўтар кніжкі, у 1942 годзе «ў разліку на адзін гектар ворыва і пашы складалі: 100 кг збожжа, 200 кг бульбы і 20 кг мяса жывой вагою — гэта былі досыць памяркоўныя патрабаванні, яны давалі сялянам магчымасць распараджацца нават большай часткай /сваёй/ прадукцыі, чым пры Саветах».

З фактамі ў руках Ю. Туронак таксама даказвае, што Кубэ «імкнуўся абмежаваць маштабы масавага забойства яўрэяў... Тактыка Кубэ дазволіла дзесяткам тысяч яўрэяў уцячы з гета ў лясы, дала ім шанц для захавання жыцця».

Аўтар манаграфіі робіць наступную лагічную выснову: калі апошняя акалічнасць разам з іншымі спробамі Кубэ праводзіць на Беларусі не заўжды ўзгоднены з начальствам палітычны курс выклікалі ў Берліне незадаволенасць і раздражненне, то выступленні генеральнага камісара Беларусі супраць масавага знішчэння тут цывільнага насельніцтва і, у прыватнасці, спальвання вёсак, якія ажыццяўляліся сіламі СС, непазбежна павінны былі прывесці да вострага канфлікту з усемагутным ведамствам рэйхсфюрэра Гімлера. «Кіраўніцтва СС... імкнулася, — піша Ю. Туронак, — перашкодзіць распаўсюджванню звестак пра злачынствы карных атрадаў і заткнуць Кубэ рот».

З раней папулярнага кінафільма «Гадзіннік спыніўся апоўначы» мы ведаем, што 22 верасня 1943 года ў спальні Кубэ выбухнула міна, у выніку чаго ён быў забіты. Відаць, усе знаёмы таксама з афіцыйнай савецкай інтэрпрэтацыяй гэтай падзеі, у адпаведнасці з якой замах — справа рук партызан і падпольшчыкаў, а непасрэдныя выканаўцы — А. Мазанік і М. Осіпава. Але польскі даследчык слушна заўважае: «Смерць Кубэ, безумоўна, была на руку савецкім уладам, якім яго палітычныя паводзіны перашкаджалі куды больш за злачынствы эсэсаўцаў... нельга адкінуць версіі, што замах на Кубэ падрыхтавала СС». З аўтарам тут цяжка пагадзіцца, смерць Кубэ і па сённяшні дзень яшчэ застаецца загадкай: дакументы не даюць адназначнага адказу. Але кніжка Ю. Туронка пераконвае, што Кубэ быў ці не адзіным у фашысцкіх вярхах, хто ацаніў і падтрымаў «беларускае пытанне», хто ў перспектыве бачыў стварэнне асобнай беларускай дзяржавы пад эгідай Германіі. Што да агульнай ацэнкі дзейнасці на Беларусі гэтай асобы, то, напэўна, яе нельга зрабіць без уліку аднаго з выказванняў Гімлера, які адзначыў: толькі смерць выратавала Кубэ ад канцлагера...

Чацвёрты раздзел манаграфіі «Напярэдадні татальнай катастрофы» храналагічна ахоплівае перыяд з восені 1943 да канца наступнага года. На нашу думку, ён выклікае меншую цікавасць, хоць і тут аўтар са спасылкай на шматлікія аўтарытэтныя крыніцы прыводзіць мноства новых дакументальных фактаў. Гэтая факталогія дазваляе вызначыць заключны этап нямецкай акупацыі Беларусі як працяг трагічных старонак «невядомай вайны».

Агульныя высновы польскага вучонага па тэме даследавання падсумаваны ў аўтарскім заключэнні да кнігі. Ён, прынамсі, піша: «Большасць насельніцтва жыла ў страху і чаканні, але ўжо на самым пачатку акупацыі... абазначыліся дзве крайнія плыні /палітычнай актыўнасці беларусаў. — **М. В.**/ — камуністычная і нацыяналістычная, якія развіваліся ў вострай ідэалагічнай і ўзброенай барацьбе. Пік гэтага супрацьстаяння прыйшоўся на апошнюю фазу акупацыі, калі дзесяткі тысяч беларусаў стаялі са зброяй у руках па розныя бакі барыкады». Вядома, такая аўтарская ацэнка будзе сустрэта ў штыкі артадаксальнымі дагматыкамі, светапогляд якіх сфарміраваўся пад магутным уздзеяннем міфаў савецкай гістарыяграфіі. Для значнай часткі беларускіх гісторыкаў абсалютна непрымальным застанецца таксама і такая думка Ю. Туронка: «Савецкія ўлады рашуча выступілі супраць актывізацыі беларускага нацыяналізму... найбольшую небяспеку яны бачылі не ў стварэнні антыпартызанскіх беларускіх атрадаў, а ў пранікненні пачуцця нацыянальнай асобнасці і сепаратысцкіх тэндэнцый у масавую свядомасць».

Але ж факты — упартая рэч. А факталагічная і дакументальная аргументаванасць высноў аўтара — самы моцны бок кніжкі. Канчатковую ж ацэнку даследаванню Ю. Туронка выставіць яго вялікасць Час.

**Мар'ян ВІЖ**

---

*Юры Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй /пераклад з польскай/. Мн., «Беларусь», 1993.*

# Фёдар КУЛЯШОЎ

29 снежня на 81 годзе жыцця памёр член Саюза пісьменнікаў Беларусі Фёдар Куляшоў.

Фёдар Іванавіч Куляшоў нарадзіўся 18 чэрвеня 1913 г. у вёсцы Вялікія Стралкі Рагачоўскага раёна ў сялянскай сям'і. Ён прайшоў нялёгкі жыццёвы шлях. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. У 1938 г. быў рэпрэсіраваны. Адбываў зняволенне пад Варкутой. Пасля вызвалення /1943/ выкладаў рускую мову і літаратуру ў школе, у вышэйшых навучальных установах Сібіры і Казахстана. Скончыў завочна Ленінградскі педагагічны інстытут імя А. І. Герцэна. У 1951—1955 гг. — выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у 1955—1961 гг. — Сахалінскага пединстытута. З 1961 г. зноў у БДУ, дзе у 1966—1969 гг. загадваў кафедрай рускай класічнай літаратуры. У 1964 г. абараніў доктарскую дысертацыю, у 1965 атрымаў званне прафесара.

Літаратурнай дзейнасцю пачаў займацца ў 1932 годзе, калі быў супрацоўнікам рагачоўскай раённай газеты «Камунар». Даследаваў гісторыю рускай літаратуры 19 — пачатку 20 стагоддзя і сучасную беларускую літаратуру.



Аўтар кніг аб творчасці Л. Талстога, М. Някрасава, А. Чэхава, А. Купрына, М. Горкага, М. Лынькова, І. Мележа, зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў «Эцюды аб прозе», «Літаратурныя партрэты», «У дарозе», нарыса «Сучасная беларуская проза», некалькіх вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў-філолагаў. Яго працы вызначаюцца глыбінёй навуковага аналізу, шырынёй ахопу літаратурных з'яў, пранікненнем у сутнасць мастацкага твора.

Ф. І. Куляшоў клапаціўся пра выхаванне маладых навуковых кадраў філолагаў, перадаваў ім свой багаты вопыт. Ён быў чулым таварышам, прынцыповым і душэўным чалавекам.

Светлы вобраз Фёдара Іванавіча Куляшова назаўсёды захаваецца ў сэрцах сяброў і ўсіх, хто яго ведаў.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**


# ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны:
прыёмная рэдакцыі 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі 331-985
літаратурнага жыцця 332-462
крытыкі і бібліяграфіі 332-204
паэзіі і прозы 332-204
музыкі 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў 332-462
навін 332-462
мастацкага афармлення 332-204
фотакарэспандэнт 332-462
бухгалтэрыя 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 17.000. Нумар падпісаны 13.01.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


Нашы госці

# ЯМУ СПАДАРОЖНІЧАЕ ПОСПЕХ

Гэта быў асаблівы канцэрт — «элітарны», як казалі ў публіцы. Ён вымагаў падрыхтаванага слухача, бо ўвесь вечар у зале філармоніі гучалі фартэпіянныя санаты Ф. Шуберта. З такой праграмай можа рызыкнуць выступіць, пэўна, толькі вопытны маэстра ў канцы жыццёвага і канцэртнага шляху. Тым больш дзіўна, што на канцэрце Міхала Лідскага, маладога піяніста, публіка пільнавала кожны гук, кожны рух пачуцця.

У канцэртныя залы нас вабіць не толькі творчасць пазначанага на афішы кампазітара, але і таямніца выканаўцы — хуткаплынная, напоўненая токамі слухацкай аўдыторыі, творчасць для цябе. Мінскую публіку прывабілава сваёй незвычайнасцю выканаўчае майстэрства Міхаіла Лідскага, лаўрэата І прэміі Усерасійскага конкурсу піяністаў, аспіранта Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных.

Незвычайнае было аблічча артыста — замкнёны ў сабе, цалкам аддадзены музыцы. У яго ігры — ні самай малой паблажлівасці да густаў публікі, нічога кідкага, разлічанага на эфект. Ён вылучаецца манерай гуказдабывання, незвычайнымі фартэпіяннымі фарбамі, філігранна адточанай тэхнікай. Гэтыя якасці ўжо цяпер ставяць маладога піяніста на высокі міжнародны ўзровень.

У шубертаўскай праграме ўражвала дасканалае валоданне стылем. І яшчэ: такое перакананальнае адчуванне музычнай атмасферы Аўстрыі мінчане, відаць, атрымалі толькі ў дасканалай інтэрпрэтацыі аркестра з Германіі пад кіраўніцтвам знакамітага І. Мянухіна.

У Санаце ля мінор ор. 42 асаблівa пaэтычна была выканана баладная І частка, якая перадае і лірычны развагі, і летуценнасць, і ганарлівую маршавасць. Засяроджана і пранікнёна прагучала ІІ частка. Піяніст удала знайшоў тонкія паўтаны, лёгкі танцавальны рух. На жаль, адчувалася расплывістасць формы, чаго варта было пазбегнуць, помнячы пра «боскія доўгаты» шубертаўскай музыкі. У лёгкім, празрыстым Скерца запомнілася Трыо, інтэрпрэтаванае ў народным духу...

Саната соль мажор ор. 78 сваёй песеннасцю, а таксама няспешнай І часткай, якая атрымала назву Фантазіі, займае асаблівае месца сярод санат Шуберта. У І частцы выканаўца падкрэсліў прыхаваную напружанасць галоўнай партыі, а таксама яркі кантраст вобразаў у заключным раздзеле: шчымлівая



журботныя інтанацыі мелодыі і грозны маршавы поступ. У Андантэ ўвага слухача была скіравана на масіўныя, арганнага характару эпізоды /водгалас бахаўскай эпохі/, якія сваёй патэтыкай разбураюць агульную атмасферу ціхамірнай музыкі. У Менуэце цудоўна прагучалі мажорамінорныя перафарбоўкі матываў, напоўненыя глыбокім мастацкім сэнсам. Тонкае і бліскучае ўражанне зрабіў фінал.

Зусім іншым падаўся М. Лідскі ў Другім канцэрце П. Чайкоўскага. У І часцы піяніст раскрыў усю моц і глыбіню гучання свайго інструмента, паказаў выдатнае валоданне «буйной тэхнікай», асабліва акордавымі і актаўнымі мартэлята, выкарыстанымі «с безумной быстротой и сумасшедшей силой» /рэмарка кампазітара/. Велічна, з эпічнай стрыманасцю паўстала тэма галоўнай партыі. Раяль гучаў то аркестрава, то рэчытатыўна або рамансава, адлюстроўваючы разнастайныя грані стылю Чайкоўскага. ІІ частка ўяўляе сабой як бы гіганцкае трыо /фартэпіяна, скрыпка, віяланчэль/ з аркестрам. Салісты і дырыжор /П. Вандзілоўскі/ паказалі тут сваё поліфанічнае майстэрства. Глыбіня перажыванняў зачароўвала слухачоў. Найбольш вядомы публіцы фінал. Віртуозны, з пругкім танцавальным рытмам, ён быў выкананы ў народным духу, з адценнем гумару.

Слухаючы твор у трактоўцы М. Лідскага, пагаджаешся з тым, што Чайкоўскага называлі «рус кім Бетховенам». Дарэчы, піяніст абраў аўтарскую рэдакцыю, слушна пераканаўны, што купюры ў распаўсюджанай рэдакцыі А. Зілоці скажаюць задуманую Чайкоўскім форму частак канцэрта.

У М. Лідскага вялікі поспех паўсюль. У Ратэрдаме тры дні запар на яго канцэртах была перапоўнена зала на 2,5 тыс. месцаў. Цёпла прымала публіка на Тайвані. Далей — выступленні ў Іспаніі, Японіі. Гэтыя паездкі ажыццяўляюцца дзякуючы разумнай і дакладнай працы менеджэраў з маскоўскага Цэнтра музычнага мастацтва «Класіка». Манаполія дзяржавы на канцэрты і канцэртантаў, якая выклікала гэтулькі папрокаў, а часам і трагедый, парушана. Артысты, у якіх паверылі імпрэсарыо, пазбаўлены безлічы непатрэбных адміністрацыйных турбот. І гэта добра.

Аднак, што прымушае нас у цяжкі, гістарычна пераломны час прыходзіць у філармонію? Відаць, жаданне знайсці душэўны спакой, далучаючыся да найвысокай гармоніі праз гукавую матэрыю. Залы філармоніі павінны быць запоўнены самай удзячнай часткай публікі — моладдзю, навучэнцамі нашых музычных устаноў. У гэтым выхаваўчае значэнне філарманічнай дзейнасці. Мне як выкладчыку вядома, што студэнтаў, гэтую патэнцыяльную частку публікі, бянтэжыць няспынная дарагоўля пажыткy матэрыяльнага і духоўнага. Прыгадваецца гісторыя нашага сталічнага горада, калі яшчэ ў 30-ыя /!/ гады намаганнямі кіраўніцтва кансерваторыі і філармоніі, спецыяльнымі пастановамі студэнтам музычнай ВНУ гарантаваліся адчыненыя дзверы канцэртнай залы. А як былая студэнтка Маскоўскай кансерваторыі я помню кантрамаркі ў студэнцкім прафкаме, прычым на самыя цяжкадаступныя і, вядома ж, самыя цікавыя ў прафесійных адносінах канцэрты. «Кульгае» ў нас і сістэма абвяшчэння філармоніяй значных канцэртных падзей.

Шкада, што і на канцэртах М. Лідскага не было многіх з тых навучэнцаў-музыкантаў, якія хацелі б, ды не здолелі сустрэцца з майстэрствам гэтага выдатнага піяніста.

**Раіса НОВІКАВА,**
кандыдат мастацтвазнаўства

**НАШ АНОНС. 17 і 18 студзеня М. Лідскі зноў выступае ў Мінску. Разам з віяланчэлістам Д. Цырыным ды скрыпачом А. Мартынавым ён удзельнічае ў камернай праграме з твораў І. Брамса, С. Пракоф'ева, Ф. Шуберта. Прагучыць таксама трайны канцэрт Л. Бетховена — з Акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам П. Вандзілоўскага.**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Прарокі ступаюць шляхам вякоў, жарам нябёсаў душы сагрэтыя. Прыглядаюся да паэтаў — твары з абразоў, углядаюся ў абразы — твары нашых паэтаў.

•

Есць ідэя: хай кожны робіць тое, што не ўмее. Уяўляеце, якія адкрываюцца перспектывы! Можна стварaць цэлыя калектывы, арганізаваць вывучэнне попыту, абагульненне вопыту, прыцягнуць творчую інтэлігенцыю, ладзіць метадычныя канферэнцыі, абавязаць акадэмічныя ўстановы распрацаваць навуковыя асновы... Што? Вілами па вадзе? А хіба не так ідзе?

•

Свабода прыходзіць голая... А тады ўжо па суседстве ўзнікаюць дзябёлыя «голыя» выдавецтвы. Накручваюць тыражы на сексуальныя міражы. Бачым, што каралі голыя, а цалуем полы ім.

•

У туалеце вісела таблічка «Паважайце працу тэхнічкі». Таблічку ўсе чыталі, а працу не паважалі. Агідна было ў туалеце, пакуль не прыватызавалі. Напрошваецца параўнанне месца агульнага карыстання з іншай агульнай уласнасцю, тут таксама няма яснасці. Як нам далей кіраваць — агітаваць ці прыватызаваць?

•

На канферэнцыі «Біцца ў барабан» з уступным словам выступіў баран. Здзівіўся бубен: «Што ён, браткі, мэкае, калі ў інструментах не кумекае?» — Яно-то так, — сказаў тамтам, — баран бляе здуру, але не забывай, братан, чыю ты носіш шкуру».

•

У аддзеле кадраў. «Усё з бядняцкіх сямей, бядняцкіх сямей, а дзе ў вас спецыялісты шляхетных крывей, кулацкага паходжання, не ў нас народжаныя?» — «Хопіць і тых, і гэтых, многія цяпер перапісваюць анкеты».

